5 ліпеня 2019 | № 25 (636)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Знаёмцеся — кліматычныя паўстанцы**
Стар. 8

**4 АД «АЗБУКІ КАМУНІЗМУ» ДА «АЗБУКІ ПАЛІТАЛОГІІ»**

Змяненне прыроды чалавека — мабыць, адзіная задача, якую бальшавікі перад сабой не толькі паставілі, але і паспяхова вырашылі

**5 ПРА ТОЕ, ЧАГО АМАЛЬ НІХТО НЕ БАЧЫЎ, АЛЕ ЎСЕ БАЯЦЦА**

Ніхто не кажа, што пацыенту не можа стаць блага ў крэсле дантыста. Палова міліцыянтаў і амаль усе салдаты тэрміновай службы губляюць прытомнасць. Прычым многія — да маніпуляцыі. Прэвентыўна



**6–7 БЕЛАРУСЫ: НАЦЫЯ, ЦІ ЯК?**

Дзеля таго, каб разабрацца з беларусамі — хто мы на самай справе, неабходна ўдакладніць, што маецца на ўвазе, калі гаворка ідзе пра народ і нацыю



**10 ПОЛЬСКАЯ ЗБРОЯ СУПРАЦЬ СТАЛІНА**

У 1920–1930-я гады ў Еўропе распаўсюдзіўся грамадска-палітычны і культурна-інтэлектуальны рух, накіраваны супраць імперскіх памкненняў Савецкага Саюза

# Цвік у труну беларускай навукі

## Беларускае войска будзе ваяваць каменнымі сякерамі?



Сяргей ПУЛЬША

Сярэдні ўзрост абраных акадэмікаў у 2017 годзе склаў 64 гады. Сярэдні ўзрост абраных у тым жа годзе членаў-карэспандэнтаў — 57 гадоў.

Статыстычны бюлетэнь Белстата «Аб навуковай і інавацыйнай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь у 2017 годзе» паказвае, што ў краіне ёсць 17 тысяч 89 даследчыкаў. 645 з іх маюць ступень доктара навук, а 2850 — кандыдата навук. Але з гэтых 645 дактароў навук, якія праводзяць даследаванні ў Беларусі, 522 маюць узрост больш за 60 гадоў. Пры гэтым больш за трацціну ўсіх дактароў навук перасягнулі 70-гадовы рубеж.

Толькі 28 дактароў навук у краіне не адсвяткавалі 50-годдзе. 95 навукоўцаў з гэтай ступенню маюць узрост ад 50 да 59 гадоў. Найбольшая колькасць тытулаваных вучоных — старэйшага ўзросту. Ва ўзроставую катэгорыю «ад 60 да 69 гадоў» уваходзіць 261 доктар навук. Столькі ж дактароў налічваецца ў катэгорыі «ад 70 гадоў і старэйшыя».

Сярод кандыдатаў навук сітуацыя крыху іншая, але таксама не вельмі прывабная. З 2850 даследчыкаў з гэтай навуковай ступенню 1019 чалавек старэйшыя за 60 гадоў. Пры гэтым у катэгорыі «ад 60 да 69 гадоў» — 676 навукоўцаў, а ў катэгорыі «ад 70 гадоў і старэйшых» — 343 чалавекі.

Ва ўзросце да 29 гадоў (уключна) ступень кандыдата навук мае толькі 25 (!!!) даследчыкаў.

Паводле прагнозаў, да 2020 года сярэдні ўзрост дактароў навук у Беларусі можа дасягнуць 70-ці гадоў.

І лепш не будзе, таму што дэпутаты ўхвалілі так званы «закон Раўкова», які прадугледжвае толькі адну адтэрміноўку ад войска на час навучання. Гэта азначае, што людзі, якія павінны былі пайсці ў аспірантуру ці магістратуру (а потым, магчыма, у дактарантуру — рухаць беларускую навуку да квітнення), зараз пойдуць у войска. І выйдуць яны з войска ўжо забыўшыся на сваю магчымую навуковую кар'еру. Сыходзячы «на прызыў» нават на год, яны непазбежна губляюць кваліфікацыю.

Больш за тое, у краіне стане значна менш адукаваных людзей і пісьменных спецыялістаў. Бо для навучэнцаў сярэдне-спецыяльных навучальных устаноў «першая адтэрміноўка» праходзіць менавіта там. Пайсці ў ВНУ ўдасканальваць свае веды і станавіцца высокакваліфікаваным майстрам сваёй справы яны могуць толькі пасля службы ў войску.

Ва ўсіх іншых, больш цывілізаваных краінах, клапоцяцца пра свой чалавечы капітал, адукацыю і навуку. Там чалавек, які адслужыў у войску, мае прэферэнцыі для паступлення ў тую ж ВНУ. Аднак у «законе Раўкова» няма заахвочвальных захадаў. Там выключна карныя меры. І той, хто адслужыў, паспрабуе трапіць у ВНУ на агульных пачатках. Зразумела, за тэрмін службы яго веды сціраюцца. Людзі, што толькі скончылі школу, у час цэнтралізаванага тэставання, безумоўна, будуць мець перавагу перад асобай, якая «аддала доўг радзіме» (праўда, невядома, калі гэтая асоба ўмудрылася радзіме нешта завінавацінца).



Фота www.avatars.mds.yandex.net

Абгрунтоўваючы ініцыятыву па прыняцці новага закона, Міністэрства абароны казала, што недабор прызыўнікоў з-за «дэмаграфічнай ямы» пачатку 2000-х складае да 38%. Гэтым і абумоўлены жорсткія захады кшталту не прымаць «ухілістаў» на дзяржслужбу і абмежаваць ім выезд з краіны. Аднак тут вайсковыя чыноўнікі ці крывадушнічаюць, ці свядома хлусяць. Таму што, нават паводле дадзеных Мінабароны, «ухілістаў» у краіне штогод — меней 1%.

Пагадзіцеся, выглядае дзіўна: з-за 1% тых, хто прынцыпова не жадае служыць у войску, — аж да крымінальнай адказнасці за гэта, — ускладняць (а часам проста ламаць) жыццё ўсім маладым людзям ва ўзросце ад 18 да 27 гадоў.

Насамрэч, «праблема 38%» беларускага войска вырашаецца вельмі проста: без ніякіх рэпрэсіўных захадаў і абмежавальных мераў. Калі быў «дэмаграфічны ўздым», тэрмін службы ў войску скарацілі: для выпускнікоў ВНУ ён склаў год, для астатніх — паўтара года. Можна было б проста вярнуцца да савецкай сістэмы двухгадовай службы. Гэта было б і абгрунтавана, і без асаблівых штрафных санкцыяў да тых, хто жадае падоўжыць навучанне.

Самае цікавае ў тым, што «закон Раўкова» ўдарыць найперш непасрэдна па беларускім войску. Бо навуковыя даследаванні і распрацоўкі, якімі займаюцца «вызваленыя ад войска» аспіранты, магістранты і дактаранты, у пэўнай ступені працуюць і на армію. Без вынаходніцтваў у сферы оптыкі мы не створым новых прыцэлаў, без кампутарных распрацовак зараз няма сістэмаў супрацьпаветранай абароны, без інавацыяў у сістэме машынабудавання і сплаваў не будзе новай броні і новых танкаў і БМП. А тыя, хто мог іх стварыць, — проста «адбудуць павіннасць» у войску і больш гэтаму войску ніякай карысці не прынясуць.

І тычыцца гэта не толькі перспектыўных распрацовак. Нават калі 70-гадовы акадэмік выдумае новы беспілотны апарат, яго не будзе каму сабраць. Бо перспектыўных маладых спецыялістаў і магчымых інжынераў з сярэдне-спецыяльнай навучальнай установы забралі ў войска, а паступіць у ВНУ яны ўжо не здолелі — і краіна пазбавілася тысячаў высокакваліфікаваных адмыслоўцаў.

Дзякуючы «закону Раўкова» і нашым дэпутатам — проста не будзе каму распрацоўваць і ствараць новую зброю. І, калі так пойдзе далей, наша армія скоціцца да каменных сякераў і дубінаў. Затое з процьмай «гарматнага мяса».

# Чыноўнікаў хочуць абавязаць адказваць на мове звароту не толькі пісьмова, але і вусна

НЧ

**У інтэрнэце створана петыцыя, каб замацаваць статус беларускай мовы і абавязаць дзяржслужбоўцаў адказваць на мове звароту ў любым выпадку: і пісьмова, і вусна.**

Аўтары дакумента, змешчанага на сайце petitions.by, адзначаюць, што прыняты ў 2011 годзе Закон «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб» замацоўваў правы заяўнікаў атрымліваць пісьмовыя адказы (паведамленні) на пісьмовыя і электронныя звароты на мове звароту. Але названы закон меў палавінчаты характар: грамадзяніну было гарантавана даць адказ на мове звароту (дзяржаўнай) толькі ў пісьмовай ці электроннай форме, што не абараняла правы беларускамоўных грамадзян краіны.

Разам з тым, правы на паступленне на дзяржаўную службу маюць грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія валодаюць абедзвюма дзяржаўнымі мовамі ў неабходным аб'ёме. Таму аўтары петыцыі лічаць лагічным дапрацаваць заканадаўства ў частцы права грамадзян атрымліваць адказы на мове звароту ў дзяржаўныя органы, незалежна ад формы падачы звароту — вуснай ці пісьмовай.

Пасля падпісання зварот будзе накіраваны ў Нацыянальны цэнтр заканадаўства і прававых даследаванняў, а таксама ў Палату прадстаўнікоў.

Па стане на раніцу 3 ліпеня зварот падпісалі каля 300 чалавек.

# Улады эксгумуюць парэшткі Віктара Каліноўскага?

**Паводле неафіцыйнай інфармацыі, Следчы камітэт збіраецца бліжэйшым часам правесці ўскрыццё магілы Віктара Каліноўскага ў Свіслачы і эксгумацыю яго парэшткаў. Замоўчванне ўладамі таго, што яны збіраюцца рабіць, прыводзіць да розных чутак і версій.**

Стала вядома, што тыдзень таму Свіслач наведаў прадстаўнік Следчага камітэта. З кім з мясцовых уладаў ён сустракаўся — невядома. Ёсць звесткі, што ўжо 8 ліпеня ў райцэнтр прыедзе цэлая брыгада следчых і экспертаў, якія будуць рабіць даследаванне. Паводле адной з версій, у Свіслач прыедуць і адмыслоўцы з Літвы, а справа датычыць ідэнтыфікацыі знойдзеных не так даўно ў Вільні магчымых парэштках Кастуся Каліноўскага.

Карэспандэнту «Радыё Рацыя» ўдалося датэлефанавацца ў Мінск да старшага следчага Следчага ўпраўлення Паўла Чухольскага. Менавіта ён альбо кіруе гэтай справай, альбо мае да яе наўпроставае дачыненне. Павел Чухольскі адмовіўся даць афіцыйны каментар наконт планаванай эксгумацыі, сказаўшы, што яшчэ рана нешта каментаваць. Разам з тым ён не аспрэчыў неафіцыйную інфармацыю пра меркаваныя раскопкі магілы. А значыць, нейкія дзеянні ўсё ж плануюцца. Чаму б не паведаміць пра гэта грамадскасці?!

Апошні тыдзень грамадскія актывісты спрабавалі высветліць сітуацыю. Свіслацкі грамадскі актывіст Юрый Глебік звяртаўся да прадстаўнікоў раённай улады, але дакладнага адказу так і не атрымаў. Гродзенскі праваабаронца і журналіст Уладзімір Хільмановіч наведаў аддзел культуры Гродзенскага аблвыканкаму, аднак там запэўнілі, што нічога не ведаюць пра гэтую справу і не маюць да яе дачынення.

«Калі размова сапраўды ідзе пра ідэнтыфікацыю парэшткаў Віктара Каліноўскага — то гэта пытанне агульнанацыянальнага маштабу. Тут павінна быць абавязковае шырокае грамадскае абмеркаванне з удзелам дасведчаных гісторыкаў і краязнаўцаў. Пытанне вельмі складанае і далікатнае. Калі ўлады збіраюцца паспешліва праводзіць такую эксгумацыю — то гэта будзе поўная прафанацыя альбо спланаваная палітычная акцыя па дыскрэдытацыі маленькага народнага мемарыялу і памяці братоў Каліноўскіх», — кажа Хільмановіч.

Справа ў тым, што дакладнае месца пахавання Віктара Каліноўскага вызначыць цяжка. Вядома, што яго пахавалі на свіслацкіх могілках, аднак з 1862 года не раз разбуралася і перабудоўвалася капліца побач з магілай, былі новыя пахаванні. Парэшткі брата Кастуся Каліноўскага могуць знаходзіцца як непасрэдна пад помнікам-крыжам, так і ў радыусе ад аднаго да пяці, а то і больш метраў. «Калі плануецца эксгумацыя, то следчыя павінны надзвычай дэталёва апытаць гісторыкаў, краязнаўцаў, а не прыязджаць патаемна, весці нейкія паспешлівыя раскопкі», — лічыць Хільмановіч.

**Паводле racyja.com**

# Вынік: плюсы і мінусы Еўрагульняў

Кірыл ІВАНОЎ

**У Мінску 30 чэрвеня скончыліся II Еўрапейскія гульні. Тыя самыя гульні, якімі, паводле задумы Аляксандра Лукашэнкі, павінны былі жыць беларусы. Ці здзейснілася мара кіраўніка дзяржавы?**

### Беларусы не прасякнуліся

Насуперак чаканням уладаў, беларусы не прасякнуліся святочным настроем. Ці то жаданне хлеба стала перамагаць прагу відовішчаў, ці то фармат спартыўнага форуму не знайшоў належнага водгуку ў масах, але факт: напаўпустыя трыбуны, якія не змаглі ігнараваць нават каментатары дзяржаўных тэлеканалаў, а таксама пустынныя фан-зоны.

Акрамя таго, многіх мінчан абурылі перакрытыя дзеля спаборніцтваў цэнтральныя вуліцы сталіцы. З-за гэтага ўтварыліся велізарныя коркі, што не дадало людзям настрою.

### Сціплая VIP-ложа

Спіс высокіх гасцей, якія пагадзіліся прыехаць на адкрыццё II Еўрапейскіх гульняў, больш чым красамоўна гаварыў аб статусе мерапрыемства. Ні з адной краіны Еўрасаюза першыя асобы ў Мінск не прыехалі — нават з суседніх Польшчы, Літвы і Латвіі.

Ільхам Аліеў, які прымаў першыя гульні, даслаў замест сябе дачку. А прэзідэнт Сербіі і зусім не пайшоў на цырымонію адкрыцця, бо на ёй прысутнічаў прэзідэнт Косава.

У выніку кампанію ў VIP-ложы Лукашэнкі склалі Рамзан Кадыраў, прэзідэнт Малдовы Ігар Дадон, прэм'ер-міністр Расіі Дзмітрый Мядзведзеў, які прыехаў у Мінск замест Уладзіміра Пуціна.

### Чакалі дзясяткі тысяч гасцей, а ў выніку…

Напярэдадні гульняў улады прагназавалі прыезд каля 30 тысяч замежных балельшчыкаў. У выніку 27 чэрвеня была агучана лічба: 12 200 бязвізавых замежнікаў, сярод якіх больш за 4000 — спартсмены.

### Крытыка

Апублікаваная ў разгар гульняў сума, якую Беларусь выдаткавала на правядзенне Еўрапейскіх гульняў (265 мільёнаў долараў. — НЧ), выклікала дадатковую хвалю крытыкі на адрас уладаў. Маўляў, клянчым у суседзяў крэдыты, а самі выкідваем на вецер мільёны.

Сваю незадаволенасць фарматам правядзення спаборніцтваў выказалі і непасрэдныя ўдзельнікі гульняў.

### Плюсы

Да пазітыўных момантаў можна аднесці афіцыйную цырымонію адкрыцця гульняў, у якой было шмат нацыянальных і гістарычных матываў. Магчыма, так супала, але ў цягніках гарадскіх ліній нарэшце з'явілася агучка і на беларускай мове.

У метро з'явіўся ўстойлівы інтэрнэт і магчымасць расплаціцца банкаўскай карткай. У Мінску застануцца дзясяткі гарадскіх аўтобусаў з кандыцыянерамі.

З іншага боку, вялікае пытанне: а ці нельга ўсё гэта было зрабіць па-за межамі гульняў?

**gazetaby.com. Пераклад НЧ**

# НВЦ каля Курапатаў: Мінкульт ні пры чым?

Марат ГАРАВЫ

**Міністэрства культуры раіць грамадскасці звярнуцца ў Мінскі райвыканкам за тлумачэннямі па пытанні будаўніцтва Нацыянальнага выставачнага цэнтру на полі паміж Курапатамі і «Экспабелам».**

Пра гэта гаворыцца ў адказе намесніка міністра культуры Сяргея Шарамецьева на зварот грамадскасці да ўладаў «Захаваем поле-помнік паміж Курапатамі і "Экспабелам"!».

Зварот — адказ грамадскасці на выказванне кіраўніка краіны аб пабудове Нацыянальнага выставачнага цэнтру (НВЦ) на полі паміж Курапатамі і «Экспабелам». Лукашэнка звярнуў увагу на неабходнасць узвесці функцыянальны, просты, прыгожы і якасны комплекс без лішніх выдаткаў.

«Паколькі ў гэтым месцы ляжаць тысячы нашых з вамі продкаў і суайчыннікаў — бязвінных ахвяраў сталінізму, Курапаты сталі святыняй усяго беларускага народа, сваім трагічным мінулым яднаюць нацыю і патрабуюць ад нас адказнага, шчырага і сумленнага стаўлення», — падкрэсліваецца ў звароце «Захаваем поле-помнік паміж Курапатамі і "Экспабелам"!».

Аўтары звароту акцэнтуюць увагу на наступным:

1. Каб перадаць Курапаты нашчадкам у гістарычным атачэнні, неабходна захаваць старадаўняе поле на ўсход ад урочышча з яго ландшафтам, грунтавой «Дарогай смерці» і краявіднымі пунктамі. Гэтае поле — апошняе, што ў сваім жыцці бачылі ахвяры, само з'яўляецца краналным помнікам і мае права на ўключэнне ў склад гісторыка-культурнай каштоўнасці. Аднак узвядзенне НВЦ парушыць звычны выгляд гістарычнага поля.
2. На полі паміж Курапатамі і «Экспабелам» зусім невялікая прастора для будаўніцтва НВЦ нават без уліку перспектывы яго пашырэння — усяго 20 гектараў.
3. Існуе небяспека парушэння ўсходняй мяжы ахоўнай зоны Курапатаў з «Дарогай смерці», тым болей, што прывязка гэтай мяжы да мясцовасці зроблена неадназначна і патрабуе выпраўлення.
4. Праект НВЦ супярэчыць абмежаванням абранай будаўнічай пляцоўкі. Яна знаходзіцца ў зоне рэгулявання забудовы, дзе забараняецца, між іншым, размяшчэнне збудаванняў, якія павялічваюць грузавыя патокі, забруджваюць паветраны і водны басейны. Апроч таго, зона рэгулявання забудовы абмяжоўвае маштаб забудовы на тэрыторыях, прылеглых да Курапатаў, дзеля захавання асноўных старадаўніх пунктаў візуальнага ўспрымання гэтага помніка.
5. Будаўніцтва і эксплуатацыя НВЦ — дадатковы фактар моцнага антрапагеннага ўціску на ўрочышча Курапаты апроч існуючых — МКАД і Заслаўскай шашы.
6. Размяшчэнне НВЦ побач з мемарыялам непазбежна паўплывае на ўспрыманне самога НВЦ і яго экспазіцыяў, істотна абмяжуе віды мерапрыемстваў, якія магчыма і этычна праводзіць для гасцей выставачнага цэнтру, у прыватнасці замежных.
7. Размяшчэнне НВЦ каля месца смутку і пакаяння прынізіць Курапаты як знакавы помнік айчыннай гісторыі.
8. Такім чынам, абранае для будаўніцтва НВЦ месца не адпавядае архітэктурна-ландшафтнаму атачэнню абодвух складнікаў — як саміх Курапатаў, так і Нацыянальнага выставачнага цэнтру.

Грамадскасць просіць улады перагледзець тэрыторыю размяшчэння НВЦ і пакінуць поле паміж Курапатамі і «Экспабелам» як месца нацыянальнай памяці. Зварот грамадскасці накіраваны ў шэраг уладных структураў, у тым ліку да галоўнага архітэктара Мінскай вобласці, у Беларускую гандлёва-прамысловую палату, у Міністэрства культуры, у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу і ў Адміністрацыю кіраўніка краіны.

У сваім адказе апроч іншага Сяргей Шарамецьеў зазначыў, што звесткі пра будаўніцтва НВЦ на тэрыторыі зонаў аховы Курапатаў «у Міністэрства культуры не паступалі».

Старшыня пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры і навуцы Палаты прадстаўнікоў Ігар Марзалюк у адказе паведаміў, што камісія ўзяла пад сваю ўвагу хвалюючае грамадскасць пытанне, і накіравала адпаведныя лісты ў міністэрствы культуры, архітэктуры і будаўніцтва, а таксама ў Мінскі гарвыканкам, запланавала бліжэйшым часам правядзенне рабочай сустрэчы з кіраўніцтвам Міністэрства культуры, іншых дзяржаўных органаў для вывучэння мэтазгоднасці будаўніцтва НВЦ на месцы, вызначаным кіраўніком дзяржавы.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Антынародны парламент

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Паводзіны «народных абраннікаў» мяне шчыра здзіўляюць. Падаецца, у такую структуру, як Палата прадстаўнікоў, набіраюць людзей, збольшага прынцыпова бесхрыбтовых. Канешне, мы ўсе ведаем, як у краіне праходзяць выбары, і тое, што нашы «дэпутаты» — хутчэй прызначаныя, чым абраныя. Але хаця б для бачнасці яны маглі б сказаць сваё слова за народ?**

Ужо некалькі тыдняў увага жыхароў Беларусі прыкутая да «закону Раўкова» — новых правілаў прызыву ў войска, якія, дэ-факта, адмяняюць адтэрміноўкі службы ў войску для тых, хто хоча працягнуць навучанне. З-за гэтага неяк выпаў з увагі іншы, не менш рэзанансны дакумент. 26 чэрвеня дэпутаты Палаты прадстаўнікоў перанеслі ў Працоўны кодэкс нормы дэкрэта №29 ад 26 ліпеня 1999 года «Аб дадатковых мерах па ўдасканаленні працоўных адносінаў, умацаванні працоўнай і выканаўчай дысцыпліны», які замацаваў сістэму паэтапнага пераходу на тэрміновыя працоўныя кантракты, і дэкрэта №5 ад 15 снежня 2014 года «Аб узмацненні патрабаванняў да кіруючых кадраў і работнікаў арганізацый».

«Раней гэтыя дэкрэты насілі часовы характар, а цяпер атрымалі статус закона. Цяпер свабода карацЬ — для наймальніка, для работніка ж — рабства», — ацаніў новаўвядзенні ў заканадаўства лідар прафсаюза РЭП Генадзь Фядыніч.

Супраць дэкрэтаў №29 і №5 неаднаразова выказвалася Міжнародная арганізацыя працы, іншыя міжнародныя арганізацыі, беларускія незалежныя прафсаюзы. Але зараз гэта — ужо закон.

Незалежныя прафсаюзы доўгі час дамагаліся вяртання ў Працоўны Кодэкс бестэрміновых кантрактаў для большасці работнікаў. Толькі з пэўнай групай грамадзян яны прапаноўвалі заключаць кароткатэрміновыя кантракты — гэта сезонныя рабочыя, галоўныя бухгалтары, кіраўнікі прадпрыемстваў. На думку многіх, кароткатэрміновыя кантракты (як правіла, на год) ствараюць для працоўных кепскія ўмовы. Кепскія ў тым, што пад пагрозай непадаўжэння кантракту людзі баяцца адстойваць свае правы. А значыць, знаходзяцца ў поўнай залежнасці ад кіраўніцтва прадпрыемства ці арганізацыі.

Насамрэч, у кароткатэрміновых кантрактах ёсць і іншы бок медаля. Справа ў тым, што працаўнікі, з якімі падпісаны кароткатэрміновы кантракт, перад заканчэннем яго тэрміну адчуваюць стрэс, бо не ведаюць, ці падоўжаць яго, і на якіх умовах падоўжаць. Больш за тое, працоўныя, што знаходзяцца на кароткатэрміновай дамове, з-за такой нявызначанасці не зацікаўленыя развівацца, падвышаць узровень сваёй кваліфікацыі, працаваць на перспектыву. «Навошта прыкладаць да гэтага высілкі, калі праз год я магу тут ужо і не працаваць?» — думаюць яны.

І ўсё больш становіцца тых, хто працуе «ад кантракту да кантракту». Пра якую мадэрнізацыю вытворчасці, падвышэнне якасці прадукцыі, перспектывы развіцця прадпрыемства можа ісці гаворка, калі чалавек не ўпэўнены ў заўтрашнім дні?

Але нашым дэпутатам гэтыя аргументы, як і меркаванне адмыслоўцаў, і міжнародных экспертаў, і меркаванне саміх выбаршчыкаў — да зоркі колеру бэзу. Галоўнае — спадабацца таму, хто прызначае дэпутатаў. Тады, можа быць, і «перазаключаць кантракт» на чарговы тэрмін.

На тыдні з чарговай справаздачай у Радзе па правах чалавека ААН выступіла Спецдакладчык ААН па пытанні аб становішчы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі Анаіс Марын. Яна, праўда, не змагла прыехаць у Беларусь, бо беларускія ўлады не прызнаюць мандат спецдакладчыка. Але яе справаздача не была арыгінальнай, як не былі арыгінальныя ўсе падобныя дакументы. Бо, згодна з яе

**Пра якую мадэрнізацыю вытворчасці, падвышэнне якасці прадукцыі, далейшае развіццё прадпрыемства можа ісці гаворка, калі працаўнік не ўпэўнены ў заўтрашнім дні?**

высновамі, сітуацыя з правамі чалавека ў нашай краіне стабільна нездавальняючая, без істотных паляпшэнняў.

Анаіс Марын звярнула ўвагу на змены ў заканадаўстве аб СМІ, «адвольна накіраваныя на тое, каб запалохаць крытыкаў, змушаючы іх да самацэнзуры»; адзначыла «непрапарцыйныя абмежаванні свабоды аб'яднанняў і мірных сходаў». У дакладзе згадваюцца непаўналетнія, асуджаныя па «наркатычных» артыкулах, і ўмовы іх утрымання ў калоніях, дыскрымінацыя асобных груп грамадзян, напрыклад, ромаў і ЛГБТ. Асобна яна прайшлася па сумнавядомай «справе БелТА», калі былі затрыманыя дзясяткі журналістаў і рэдактараў, і ў чарговы раз згадала наяўнасць у Беларусі смяротнага пакарання.

Але тое, што выклікае занепакоенасць у «сусветных дэмакратыяў», беларускія дэпутаты лічаць, наадварот, ледзь не дасягненнямі. На інтэрнэт-платформе па зборы подпісаў petitions.by было патрабаванне скасаваць «забараняльную» аплату на масавых мерапрыемствах працы міліцыі, медыкаў, камунальнікаў і іншых. У выніку «аплата мітынгу» складае каля 5 тысяч рублёў, што выглядае фантастычнай сумай, і не кожнай арганізацыі (а тым больш прыватнай асобе) па кішэні.

Старшыня пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па правах чалавека, нацыянальных адносінах і СМІ Валянціна Ражанец у адказе на петыцыю адзначыла, што свабода сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетаванняў, якія не парушаюць правапарадак і правы іншых грамадзян, гарантуецца дзяржавай у адпаведнасці з Канстытуцыяй, аднак парадак іх правядзення вызначаецца законам аб масавых мерапрыемствах.

«Дзеючае заканадаўства ўтрымлівае механізм рэалізацыі названага канстытуцыйнага права, — кажа парламентарый. — Разам з тым яго ажыццяўленне закранае правы, свабоды і законныя інтарэсы іншых асоб. З улікам гэтага асаблівую значнасць набывае прававы пастулат пра тое, што правы аднаго заканчваюцца там, дзе пачынаюцца правы іншага. Для забеспячэння неабходнага ўзроўню бяспекі пры правядзенні масавых мерапрыемстваў патрабуецца адцягненне сіл і сродкаў органаў унутраных спраў, медыцынскіх устаноў і камунальных службаў ад выканання планавых задач».

Ражанец сцвярджае, што аплата паслуг міліцыі, медыкаў і камунальных службаў падчас масавага мерапрыемства з'яўляецца «гарантыяй захавання балансу правоў, свабодаў і законных інтарэсаў». Акрамя таго, «унясенне аплаты арганізатарамі таго ці іншага масавага мерапрыемства таксама сведчыць пра клопат з іх боку аб удзельніках гэтага мерапрыемства».

Ну і, канешне ж, дэпутатка лічыць, што «ўнясенне зменаў у закон не патрабуецца».

Выбары ў парламент, меркавана, пройдуць праз чатыры месяцы. Цікава, што скажа спадарыня Ражанец, калі ЯЕ папросяць заплаціць за такое масавае мерапрыемства, як перадвыбарчы пікет ці сустрэчу з выбаршчыкамі?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Дзмітрый Паліенка

**Расследаванне крымінальнай справы актывіста анархічнага руху завяршылася, справа перададзеная ў пракуратуру для накіравання ў суд.**

Паліенку вінавацяць у асабліва злосным хуліганстве, псаванні маёмасці і распальванні сацыяльнай варожасці. Актывіст застаецца пад вартай, псіхолага-псіхіятрычная экспертыза пастанавіла, што ён «мог усведамляць фактычны характар і небяспеку сваіх дзеянняў і кіраваць імі».

Паліенка быў затрыманы 20 сакавіка, яго трымалі пад вартай без выстаўлення абвінавачвання да 5 красавіка (хаця можна толькі 10 дзён). Розныя абвінавачванні аб'ядналі ў адну справу. Нібыта ўвечары 13 сакавіка Паліенка распыліў пярцовы газ з балончыка ў твар чалавеку, які зрабіў яму заўвагу (паводле сяброўкі Паліенкі, гэта была самаабарона — да яго чапляўся «п'яны агрэсіўны мужчына»). 23 студзеня была распачатая крымінальная справа за графіці «Міліцыянты забіваюць людзей» на будынку ў Заводскім раёне Мінску, у якой разам з Паліенкам фігуруюць Яўген Чуліцкі і Настасся Гусева.

Актывісту пагражае ад 3 да 10 гадоў пазбаўлення волі. У 2016 годзе Паліенку асудзілі за «гвалт або пагрозу ўжывання гвалту ў дачыненні да супрацоўніка органаў унутраных спраў». Ён выйшаў на волю ў кастрычніку 2018 года, праз два з паловай гады зняволення.

Беларускія праваабаронцы палічылі прысуд Паліенку палітычна матываваным, а міжнародная праваабарончая арганізацыя Amnesty International прызнала яго вязнем сумлення.

## Алена Анісім



**Кіраўніца ТБМ і дэпутатка Палаты прадстаўнікоў заклікала Канстытуцыйны Суд накласці вета на новы варыянт закона аб вайсковай службе, які прадугледжвае фактычнае скасаванне адтэрміновак ад войска на час навучання.**

На яе думку, гэты закон прымусіць людзей, якія хочуць працягваць вучыцца пасля заканчэння школы або нават ВНУ, з'язджаць з краіны — каб атрымліваць адукацыю за мяжой, а не ісці служыць у войска.

«Сітуацыя з гэтым законам нашмат больш складаная, чым здаецца генералам у іх кабінетах. Бо гэты закон не толькі закранае права чалавека на атрыманне вышэйшай адукацыі — не заўсёды хлопцы маюць магчымасць закончыць ВНУ, не кажучы ўжо пра аспірантуру і гэтак далей. Варта было б, каб Канстытуцыйны Суд прыпыніў дзеянне гэтага закона — наклаў на яго вета. Каб селі і пралічылі вельмі добра: што і як. І каб мы далі магчымасць кожнаму чалавеку атрымаць тую адукацыю, якую ён лічыць патрэбным», — сказала Анісім у эфіры «Еўрарадыё».

Анісім таксама заклікала людзей пісаць звароты ў Канстытуцыйны Суд з тым, каб ён наклаў вета на скандальны закон.

## Эдуард Ханок



**Знаны беларускі кампазітар зноў пайшоў у крыжовы паход па абароне сваіх аўтарскіх правоў.**

Ён падаў іск у Вярхоўны Суд на Ядвігу Паплаўскую, і заявіў пра намер судзіцца з артыстамі Анатолем Ярмоленкам, Аляксандрам Саладухам, Таісіяй Павалій і музычным прадзюсарам Русланам Старыкоўскім.

Сутнасць прэтэнзій простая: гэтыя выканаўцы не называюць Ханка як аўтара песняў, якія яны выконваюць. На працягу некалькіх месяцаў ён збіраў выказванні артыстаў у інтэрв'ю і відэа іх канцэртаў, «якія даказваюць, што яны мяне не абвяшчаюць».

«Пры выкананні «Малінаўкі» ні разу не абвясцілі, што гэтую песню напісаў я. Таму лічу, што яны іх прысабечылі. Калі вы гадоў пяць будзеце не аб'яўляць аўтара песні, то яна будзе асацыявацца з тым, хто яе выконвае. Усе лічаць, што яна «Сашава песня», песня «Верасоў», «наша песня». Гэта парушэнне права на імя. Тая ж гісторыя ў Ярмоленкі з «А я лягу, прылягу», — кажа Ханок.

Ханок збіраўся падаць у суд на артыстаў яшчэ ў 2017 годзе, аднак тады адмовіўся ад сваіх намераў. Аднак ён выйграў працэс у тэлеканала АНТ, які не пазначыў яго як аўтара некаторых песень, што выконваліся на канцэрце памяці Аляксандра Ціхановіча.

а | Азбука паліталогіі

# Ад «Азбукі камунізму» да «Азбукі паліталогіі»



Сяргей НІКАЛЮК




**Змяненне прыроды чалавека — мабыць, адзіная задача, якую бальшавікі перад сабой не толькі паставілі, але і паспяхова вырашылі.**

Чытачы старэйшага пакалення, безумоўна, памятаюць два радкі з верша Сяргея Міхалкова, у якіх правадыр сусветнага пралетарыяту надзяляўся неардынарнай здольнасцю празорліўца: «Ленин видел далеко на много лет вперед». Але падобнай здольнасцю, як мінімум, валодаў яшчэ адзін чалавек сярод найбліжэйшых паплечнікаў правадыра. Гэта аўтар «Азбукі камунізму», знаны тэарэтык партыі бальшавікоў, журналіст і публіцыст Мікалай Бухарын.

«Азбука камунізму» была напісаная і апублікаваная ў 1919 годзе ў сувязі з тым, што «ў такім "падручніку" адчувалася велізарная патрэба». Сваёй актуальнасці яна не страціла і праз стагоддзе. Цытую: «Адзін з галоўных падманаў буржуазнай дэмакратыі палягае ў тым, што яна дае толькі бачнасць правоў; на паперы пазначана, што працоўныя могуць выбіраць у парламент цалкам свабодна, што яны маюць такія ж правы, як і гаспадар (яны нібыта «роўныя перад законам»); што яны могуць свабодна аб'ядноўвацца ў саюзы, збірацца на сходы, выпускаць якія заўгодна газеты, кніжкі і іншае. У гэтым бачаць «сутнасць дэмакратыі» і заяўляюць, што тут дэмакратыя для ўсіх, для ўсяго народа, для ўсіх грамадзян, а не так, як у Савецкай рэспубліцы».

Дык вось яна якая, буржуазная дэмакратыя! Усё, на што яна здольная, — «толькі бачнасць правоў». Іншая справа, Рэспубліка Беларусь — «унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава» (Канстытуцыя, артыкул 1), у якой «чалавек, яго правы, свабоды і гарантыі іх рэалізацыі з'яўляюцца найвышэйшай каштоўнасцю і мэтай грамадства і дзяржавы» (артыкул 2), а «адзінай крыніцай дзяржаўнай улады і носьбітам суверэнітэту з'яўляецца народ» (артыкул 3).

Хто б сумняваўся. Не пры буржуазнай жа дэмакратыі жывем! Нездарма ж у асноўным законе краіны прыметнік «буржуазны» адсутнічае. Не знайсці днём з агнём прадстаўнікоў буржуазіі і ў беларускім парламенце — і гэта нягледзячы на тое, што немалая колькасць фабрык і заводаў знаходзіцца ў руках прыватнікаў, г. зн. буржуазіі. Аднак палохацца гэтага не варта. Каму належаць сродкі вытворчасці — пытанне другаснае. Галоўнае — каму належыць улада, каму належыць права ўсё рэгуляваць і кантраляваць.

«На самай справе, — тлумачыць Бухарын, — розніца палягае ў тым, што ў адным выпадку гаспадарка арганізуецца буржуазнай дзяржавай, у іншым — дзяржавай пралетарскай». А другі выпадак — гэта пра нас. Не за гарамі ў Беларусі парламенцкія выбары, і мы зможам у гэтым пераканацца.

Аднак можна і не чакаць выбараў. Хто замінае ўжо сёння кожнаму ахвочаму «свабодна аб'ядноўвацца ў саюзы, збірацца на сходы, выпускаць якія заўгодна газеты, кніжкі і іншае»?

Дарэчы, наконт «збірацца на сходы». У адрозненне ад рэальнасці, якую апісваў Бухарын, у сучаснай Беларусі зроблены вялікі крок наперад, і забеспячэнне бяспекі падчас правядзення масавых мерапрыемстваў бярэ на сябе дзяржава.

**Адна справа — калі наглядчыкі ўдарамі па галаве стымулявалі будаўнікоў пірамід, зусім іншая — спрабаваць гэткім жа чынам прымусіць чыноўнікаў шукаць «новыя напрамкі». З такімі прапановамі АП звяртаецца ўжо не першы год. Вынікаў не бачна, але ён чалавек упарты**

Натуральна, за кошт тых, хто сабраўся, — а гэта лішні раз падкрэслівае рэальнасць нашых правоў, іх адрозненне ад буржуазнай бачнасці правоў.

## Найвялікшы цуд усіх часоў

Прафесійны публіцыст і журналіст Бухарын з лютага 1934 па студзень 1937 года ўзначальваў газету «Известия». Як і ва ўсіх яго калегаў па пяры, у ягоным слоўніку адсутнічала слова «постпраўда», якое сёння ўваходзіць у моду. Але, як і герой Мальера, які не ведаў, што ён размаўляе прозай, Бухарына можна смела аднесці да ліку піянераў, што паставілі вытворчасць постпраўды на ідэалагічны канвеер.

Што ж азначае слова «постпраўда», якое стала ў 2015-м, паводле версіі Брытанскай энцыклапедыі, словам года? Згодна з Вікіпедыяй, палітыка постпраўды — «тып палітычнай культуры, у якой дыскурс у асноўным фарміруецца праз зварот да эмоцый і асабістых перакананняў аўдыторыі, пры гэтым падрабязнасці палітычнай рэальнасці застаюцца без увагі».

Пагодзімся, але дапоўнім гэта вызначэнне яшчэ адным, запазычаным у расійскага фінансіста Андрэя Моўчана: «Гэта тэрмін, што пазначае інфармацыю, якую вам перадаюць такім чынам і так, каб вы прымалі рашэнне, якое выгадна таму, хто перадае інфармацыю. Такім чынам, гэта не аб'ектыўная інфармацыя, а інфармацыя, створаная для таго, каб чаго-небудзь дасягнуць».

Як такі тып інфармацыі ствараецца на практыцы, я праілюструю на прыкладзе штотыднёвай інфармацыйна-аналітычнай праграмы «Галоўны эфір» на тэлеканале «Беларусь 1».

У травеньскіх выпусках праграмы на 48 сюжэтаў прыйшлося 27, што былі прысвечаны ўнутраным праблемам, 6 — знешнім і 15 — змяшаным. Да апошніх адносяцца сюжэты, у якіх распавядалася пра ўзаемадзеянне беларускіх эканамічных і культурных суб'ектаў з замежнымі партнёрамі.

«Галоўны эфір» — праграма не пра праблемы краіны, а пра яе поспехі. Таму няма нічога дзіўнага, што тэме беларуска-расійскіх стасункаў быў прысвечаны толькі адзін сюжэт («брудная нафта») і толькі адзін сюжэт меў дачыненне да побытавых праблем простых людзей.

Натуральна, што кожны трэці сюжэт будаваўся вакол фігуры адзінага палітыка (АП). Каб надаць большую пераканаўчасць яго выказванням, у рэпартажы з месцаў актыўна прыцягваліся эксперты і грамадзяне, якія ўхваляюць палітыку кіраўніка дзяржавы. Іх сумеснымі намаганнямі тэлебачанне фарміравала вобраз краіны — з багатай гісторыяй, «зручнай для жыцця» і прывабнай для замежных турыстаў.

У травеньскім «Галоўным эфіры» не знайшлося месца для аналізу прычын адклікання Крамлём пасла Міхаіла Бабіча. Праігнаравалі журналісты і чарговую нярадасную статыстыку ад Белстата. Усё лагічна. Шмат будзеш ведаць — хутка састарэеш. А хіба могуць спрыяць на дзяржаўным тэлеканале такой нярадаснай перспектыве нашых суайчыннікаў?!

Канчатковай мэтай інфармацыйнай палітыкі постпраўды ў часы Бухарына было фарміраванне «новага чалавека». Зразумела, без прамога гвалту такую грандыёзную задачу вялікімі адных штатных прапагандыстаў было не вырашыць. Але ж бальшавікі ад гвалту ніколі не адмаўляліся.

Для тых, хто сумняваецца, я спецыяльна абраў дзве цытаты «ўлюбёнца партыі». Першая запазычаная з артыкула «Эканоміка пераходнага перыяду» (1920 год): «Пралетарскі прымус ва ўсіх яго формах, пачынаючы ад расстрэлаў і заканчваючы працоўнай павіннасцю, з'яўляецца метадам выпрацоўкі камуністычнага чалавецтва з чалавечага матэрыялу капіталістычнай эпохі».

Другая цытата — панегірык ДПУ ў год яго дзесяцігадовага юбілею: «ДПУ здзейсніла найвялікшы цуд усіх часоў. Яно здолела змяніць саму прыроду рускага чалавека».

## Няма правілаў без выключэнняў

З гэтым не паспрачаешся. Задача па змяненні прыроды чалавека, мабыць, была адзінай, якую бальшавікі перад сабой не толькі паставілі, але і паспяхова вырашылі. Чалавек са зменнай прыродай — гэта добра нам вядомы па даследаваннях сацыёлагаў Лявада-цэнтра «чалавек савецкі». Ён і сёння складае ядро так званай беларускай «большасці».

Гэта ён у 1994 годзе дружна падтрымаў на першых прэзідэнцкіх выбарах будучага АП. Гэта ён прыняў акупацыю Крыма ў 2014 годзе за «аднаўленне гістарычнай справядлівасці». А ў чэрвені 2015 года «чалавек савецкі» на пытанне НІСЭПД: «Калі б Расія ўзброеным шляхам паспрабавала далучыць да сябе ўсю тэрыторыю Беларусі або яе частку, як бы Вы дзейнічалі?» заявіў, што прыстасаваўся б да новай сітуацыі (53%) і вітаў б гэтыя змены (12%).

Мне ўжо неаднаразова даводзілася пісаць пра тое, што пераход ад першабытных зграяў «гома сапіенс» да вялікіх сучасных калектывах гістарычна ажыццяўляўся за кошт трох фактараў: сілы, веры і закона. Зразумела, што на пачатковым этапе гэтага пераходу пераважала сіла, а ў эпоху мадэрну і постмадэрну — закон.

Аднак няма правілаў без выключэння. Прывяду свежае (чэрвеньскае) выказванне АП: «Усё можам перапрацоўваць, лёгкая прамысловасць добрая. Але ж не, чагосьці чакаем. Чакаем, пакуль **прэзідэнт па галаве не ўдарыць** (вылучана. — Рэд.). Таму шукайце новыя напрамкі, новыя культуры. Трэба прадаваць, трэба зарабляць грошы».

Адна справа — калі наглядчыкі ўдарамі па галаве стымулявалі будаўнікоў пірамід, зусім іншая — спрабаваць гэткім жа чынам прымусіць чыноўнікаў шукаць «новыя напрамкі». З падобнымі прапановамі АП звяртаецца да свайго асяродку ўжо не першы год. Вынікаў не відаць, але ён чалавек упарты, і гэта дае надзею.

***

Чарговая «Азбука паліталогіі» падышла да канца. Было б лагічна завяршыць яе цытатай з «Азбукі камунізму», што я і раблю: «Падман патрэбны буржуазіі. Ён ёй патрэбны для таго, каб апраўдаць сваё панаванне. Яна ёсць меншасць. Яна не можа адкрыта сказаць, што купка капіталістаў кіруе. Таму ёй патрэбны падман, што яна кіруе ад імя «ўсяго народа», «усіх класаў», «усёй нацыі» і таму падобнае».

# Пра тое, чаго амаль ніхто не бачыў, але ўсе баяцца як агню

Алена ЦЕРАШКОВА



**Мы працягваем публікаваць парады сківічна-тваравага хірурга, якія, магчыма, будуць карысныя нашым чытачам. Гэтым разам яны тычацца выдалення зуба пры алергіі.**

Гэта — маё меркаванне, высновы з майго досведу і парады, якія я і мае калегі даем пацыентам.

Усё часцей паліклінікі выносяць пацыентам прысуд «полівалентная алергія» і выпраўляюць выдаляць зубы ў стацыянар. Наколькі гэта абгрунтавана, ці ёсць рызыка насамрэч, як з гэтым разабрацца і не сапсаваць здароўе на пустым месцы.

Дарэчы, хранічныя алергікі ведаюць свае дыягназы і распавядаюць усё падрабязна і дакладна, маюць мноства выпісак і рэкамендацыі алерголага. Таму тут гаворка пойдзе не пра іх.

Сцісла пра тое, чаму вучаць на курсах алерголагі: алергічная рэакцыя неадкладнага тыпу можа развівацца на любое ўвядзенне любога алергена. У тым ліку на першае ўвядзенне ў вашым жыцці. І — незалежна ад дозы. Значыць, і на алергічную пробу.

Аказваецца, ніхто не можа быць упэўнены, што алергіі



**Пра аўтара:**

Алена Церашкова – сківічна-тваравы хірург з амаль 20-гадовым стажам. Час ад часу яна дзеліцца актуальнай інфармацыяй, датычнай стаматалагічнага здароўя, траўмаў і запалення сківічна-тваравай вобласці.

ў яго не будзе вось тут проста зараз, у гэтую секунду, бо алергены паўсюль, і чалавек з імі кантактуе несупынна, а заслужанаму алергіку можа хапіць адзінай малекулы любімага алергена, каб памерці цягам некалькіх хвілін.

Добрая навіна: так было заўсёды, але чалавецтва выжыла. Таму што даволі рэдкая гэтая з'ява: 5 выпадкаў анафілактычнага шоку на 100 000 чалавек на год — з Вікіпедыі. Гэта на ежу, насякомых, лекі ды іншае. Лічба расце, але і чалавечая папуляцыя расце — то будзем аптымістамі.

Як хірургу-стаматолагу, мне стала цікава, наколькі мы, патэнцыйныя забойцы, небяспечныя для алергізаванага грамадства. Лічу прыблізна.

30 талонаў на 20 працоўных дзён на 11 месяцаў = 6 600 пацыентаў за год на 1 стаўку бесчалавечнай эксплуатацыі Міністэрствам аховы здароўя хірурга-стаматолага.

З іх лекар уводзіць замарозку, дапусцім, 2/3 (астатнія — кансультацыі, перавязкі і г.д.) Не кожны дзень лекар такі супер-выдалятар, але няхай. Значыць, 4400. На 40 гадоў кар'еры мінус дэкрэтныя і курсы падвышэння кваліфікацыі, плюс падвышэнне пенсійнага ўзросту — 176 000 пацыентаў, чалавека-анэстэзій, так бы мовіць. Акруглім да 200 000 і высветлім, што з іх 10 чалавек маглі захварэць на анафілактычны шок.

Палову давядзецца адкінуць адразу, бо нават у лютых астматыкаў, якія трапілі ў стацыянар з алергіяй (дадзеныя Капейкінай С.М. за 2010–2013 гады па Амурскай лякарні), толькі крыху больш за палову атрымалі шок ад лекаў. Сярод папуляцыі агулам значна больш людзей церпяць ад ежы і насякомых. Але мы возьмем самыя жудасныя лічбы: палову. Засталося 5. Па тым жа стацыянары выбарка сведчыць, што ў 20% людзей, што перахварэлі на анафілактычны шок ад лекаў, захварэлі праз увядзенне мясцовай анэстэзіі — замарозкі. Дзелім на 5.

Атрымліваецца: за 40 гадоў хірург-стаматолаг у сярэднім пабачыць алергічны шок на ўвядзенне замарозкі 1 (адзін) раз. Калі не возьме ў той дзень бальнічны. Смяротнасць складае 10–20%. Значыць, 9 з 10 хірургаў абміне. Не такія ўжо мы забойцы, праўда?

Пры гэтым ніхто не кажа, што пацыенту не можа стаць блага ў крэсле дантыста, — можа, яшчэ як. Палова міліцыянтаў і амаль усе салдаты тэрміновай службы губляюць прытомнасць. Прычым многія — да маніпуляцыі. Прэвентыўна.

Але гэта ўсё — забаўная лірыка. Алергікі ж на прыёме сустракаюцца не так рэдка. Многія скажуць: у маленстве перанёс алергію на пеніцылін. Нехта не пераносіць пылок раслін, а іншы — цытрусавыя. Пры гэтым абсалютная большасць з алергікаў перажыве ўвядзенне анэстэтыка без наступстваў.

**Сапраўдным алергікам лепей выдаляць зубы пад наглядам рэаніматолага ва ўмовах стацыянара. У нескладаных выпадках гэта можа быць звычайнае выдаленне без дадатковых прэпаратаў. Пабыўшы пад наглядам, пацыент выпраўляецца дадому і ведае, што канкрэтны прэпарат яму можна (альбо — нельга) уводзіць у паліклініцы**

Ёсць тыя, каму «ўвялі замарозку — і стала кепска». Асобная група — тыя, каму потым сказалі, што алергія ў яго на замарозку, і нават прэпарат назвалі, толькі ён не памятае, які.

Кепска — гэта блага. Асабліва нядобра, калі табе не могуць патлумачыць, што ж было кепскага. Давядзецца дапытвацца. Вось што можа высветліцца:

- падняўся ціск (НЕ алергія, бо сам механізм алергіі — пашырэнне сасудаў, выхад плазмы ў тканкі, крытычнае ПАДЗЕННЕ ціску);
- стала «трэсці», закалаціліся сэрца (а хто прасіў у лекара моцную замарозку? Ну вось вам адрэналіну, а бывае, яшчэ ў сасуд патрапілі. НЕ алергія);
- стала цяжка глытаць, крыху ванітавала (калі дыхаць нічога не замінала, і праз некалькі хвілін прызвычаіўся і сам не заўважыў, як адпусціла — гэта, хутчэй за ўсё, асаблівасці праяўлення замарозкі на нёбе, НЕ алергія);
- стала млосна: збялеў, пацямнела ўваччу на некалькі секунд (не відавочна: гэта МОЖА БЫЦЬ алергія — яе лёгкія, абартыўныя праявы. Але найчасцей — доўга бавела, не спаў, некалькі дзён мала піў і еў, баюся стаматолагаў з маленства, душна ў кабінеце — у розных камбінацыях);
- тупы боль у жываце (асцярожна! Так можа пачынацца самлеласць — страта прытомнасці, і гэта МОЖА БЫЦЬ алергія... або ў чалавека з дзяцінства такая рэакцыя на стрэс);
- упаў ціск, выклікалі «хуткую», забралі ў лякарню, праляжаў у рэанімацыі (вось як выглядае АЛЕРГІЯ, панове!);
- у хуткім часе пасля ўвядзення прэпарату з'явіліся ацёкі на твары, заняло дыханне (АЛЕРГІЯ, небяспека — задыхнуцца праз ацёк гартані, калі такое здарылася пры вас — «хуткую», і ў стацыянар);
- крапіўніца (АЛЕРГІЯ).

Дапусцім, сапраўды алергія. Што рабіць і чаго не рабіць.

Пробы кшталту «драпнем скуру, капнем лекі і пабачым, што будзе»: а) небяспечныя, б) неінфарматыўныя. Алергія часцяком бывае не на сам прэпарат, а на тое, чым гэты прэпарат робіцца, калі звязаўся з бялкамі, альбо калі пачаў разбурацца ў печані. А для сапраўднага алергіка хопіць і такога, каб атрымаць праблему.

Пробы «ін вітра» — нашмат лепей: рэактывы змешваюцца не з пацыентам, а з ягонай крывёй у прабірцы, што выключае кантакт арганізма з алергенам. Выніку можна давяраць, па розных крыніцах, на 60–85 працэнтаў. Заўважце: верагоднасць сустрэць дыназаўра на мінскіх вуліцах — 50%. Трэба ўлічваць: пробы гэтыя залежныя ад шматлікіх фактараў, паказчыкі могуць мяняцца цягам месяца. (Таму пробы даўнасцю больш за год, мякка кажучы, могуць не адлюстроўваць рэальны стан рэчаў. Але, калі некалькі разоў пробы паказваюць норму — гэта ўнушае аптымізм.)

Сапраўдным алергікам лепей выдаляць зубы пад наглядам рэаніматолага ва ўмовах стацыянара. У нескладаных выпадках — калі ўсе звесткі пра алергію толькі з блытаных тлумачэнняў пацыента — гэта можа быць звычайнае выдаленне без дадатковых прэпаратаў. Пабыўшы пару гадзін пад наглядам, пацыент выпраўляецца дадому і ведае, што гэты вось канкрэтны прэпарат яму можна ўводзіць і ў паліклініцы (альбо — нельга ўводзіць, калі нешта пайшло не так, і пацыента пакінулі ў стацыянары).

Калі ёсць пацверджаныя выпадкі алергіі альбо неаптымістычныя аналізы, прызначаецца прэмедыкацыі. Схемы прыкрыцця антыгістамiннымі прэпаратамі і гармонамі бываюць розныя. Бывае, што гармоны рэкамендавана ўводзіць нават уночы перад аперацыяй і некалькі разоў пасля. Гэта — нагода затрымацца ў стацыянары на пару дзён.

Крайні выпадак — агульны наркоз. Чаму крайні? Бо: а) ад наркозу прачынаюцца не ўсе; б) наркоз — нагрузка на ўсе органы і сістэмы арганізма; в) на наркотыкі, рэлаксанты і іншае бываюць такія ж алергічныя рэакцыі, і хоць здараюцца яны радзей — то таму, што папросту такія прэпараты і ўводзяць радзей. Калі ўжо даваць наркоз, дык выкарыстоўваць яго варта напоўніцу, саніраваць усё, да чаго рукі дацягнуцца. Пасля наркозу пацыента назіраюць некалькі гадзін ці некалькі дзён — як пойдзе.



***Рэзюмэ:** калі вы — алергік, вам варта саніраваць рот не радзей двух разоў на год, каб зборшага лячыць зубы без анестэзіі. Не хварэйце!*



Фота www.grodno.by

**Вельмі важным для рэальнага існавання нацыі з'яўляецца наяўнасць у людзей усведамлення прыналежнасці да яе. Узнікненне ўсведамлення прыналежнасці да нацыі ёсць вынік спецыфічнага працэсу — нацыянальнага выхавання**

# Беларусы: нацыя, ці як?

Таццяна ПРОЦЬКА

**Развіццё сучаснай тэхнагеннай цывілізацыі, асабліва ў XXI стагоддзі, надало новага сэнсу існуючым у культуры чалавецтва паняццям. Але мысленне асобнага чалавека вельмі інертнае — яно моцна трымаецца за старое, у выніку чаго ўзнікаюць розныя, часам нават небяспечныя для развіцця самой цывілізацыі сітуацыі. У першую чаргу, гэта тычыцца паняццяў нацыі, народа, дзяржавы і іх узаемных дачыненняў.**

У сувязі з новым этапам беларуска-расійскай інтэграцыі, абвешчаным кіраўніцтвам абедзвюх краін, з новай энергіяй пачынаюцца дыскусіі пра беларусаў, украінцаў і рускіх як адзіны народ, і нават нацыю. У палемічным запале ўзнікаюць — на самым высокім палітычным узроўні — выказванні пра «недадзяржаву» і «неданацыю» украінцаў, пра штучнасць утварэння Беларусі, пра беларусаў — як савецкі палітычны прыём, які былі выкарыстаны, каб не аддаць частку тэрыторый Польшчы. Фарміруюцца новыя аспекты дзяржаўнай і нацыянальнай бяспекі Беларусі. Наяўнасць беларускай нацыі робіцца гарантам беларускай дзяржаўнасці, незалежнасці, «памераў» гэтай незалежнасці.

### Крыху тэорыі

Дзеля таго, каб разабрацца з беларусамі — хто мы на самай справе, неабходна ўдакладніць, што маецца на ўвазе, калі гаворка ідзе пра вышэй згаданыя паняцці.

У пачатку XX стагоддзя, напярэдадні Першай сусветнай вайны, лідары розных палітычных элітаў і навуковых накірункаў рабілі спробы вызначыць, што ёсць народ і нацыя. Так, аўстрыйскі палітычны дзеяч Баўэр у 1907 годзе ў манаграфіі (больш за 650 старонак) вызначаў нацыю як «сукупнасць людзей, звязаных у агульнасць характару на глебе агульнасці лёсу». Ён таксама падкрэсліваў неабходнасць «сваіх» тэрыторый і мовы для ўтварэння нацыі. Аўстрыйскі палітык Рэнер (пад псеўданімам Р. Шпрынгер) у 1902 годзе ў манаграфіі «Нацыянальная праблема» казаў пра «саюз людзей, якія аднолькава думаюць ды аднолькава размаўляюць», якія ствараюць асаблівую культурную агульнасць, не звязаную з тэрыторыяй.

Французскі філосаф і пісьменнік Рэнан у дакладзе (які потым быў надрукаваны як артыкул) у 1882 годзе сцвярджаў: «Нацыя — гэта душа, духоўны прынцып. Толькі два складнікі ўласцівыя гэтай душы, гэтаму духоўнаму прынцыпу. Адзін з іх — у мінулым, другі — у сучаснасці. Адзін з іх — гэта сумеснае валоданне багатай спадчынай успамінаў; другі — фактычная згода, жаданне жыць разам, воля працягваць шанаваць агульную спадчыну». Гэты даклад сёння — класічная праца, на якую абавязкова спасылаюцца ўсе даследчыкі нацыяналізму; менавіта тут выказаны афарызм: «Нацыя — гэта штодзённы плебісцыт». («Нацыя — гэта вялікая салідарнасць, якая складаецца з ахвярапрынашэння чалавека, якое ён зможа зрабіць зноў. Яна ўзгадвае мінулае, яна абнаўляецца, асабліва ў сучаснасці праз адчувальныя дзеянні: згода, жаданне, ясны выраз, жыццё супольнасцю. Існаванне нацыі (прабачце за гэтую метафару!) — паўсядзённы плебісцыт. Гэта як само існаванне індывідуальнага, вечнага сцвярджэння жыцця»).

Ідэолаг сіянізму Герцль у адной са сваіх работ закрануў нацыянальнае пытанне і даў наступнае вызначэнне нацыі: «Нацыя — гэта група людзей агульнага гістарычнага мінулага і агульнапрызнанай прыналежнасці ў сучаснасці, згуртаваная з-за існавання агульнага ворага».

Для Беларусі, як і для Расіі, найбольш папулярным сёння з'яўляецца паняцце нацыі, вызначанае Сталіным. Яно было прапісана ў працы, якая спачатку называлася «Нацыянальнае пытанне і сацыял-дэмакратыя» і ў 1913 годзе была надрукавана ў часопісе «Асвета» (3, 4, 5 нумары), які легальна выдаваўся ў Санкт-Пецярбургу фракцыяй бальшавікоў Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (РСДРП). Сталіну на тыя часы было 35 гадоў. Пазней гэты артыкул атрымаў больш салідную назву «Марксізм і нацыянальнае пытанне». З усіх тэарэтычных працаў былога кіраўніка СССР гэтая ўжываецца і ў навуковым асяроддзі сучаснай Беларусі.

Артыкул складаецца з невялікага ўступнага раздзела і главаў: I. Нацыя; II. Нацыянальны рух; III. Нацыянальная аўтаномія; IV. Бунд, яго нацыяналізм, яго сепаратызм; V. Каўказцы, канферэнцыя ліквідатараў; VI. Нацыянальнае пытанне ў Расіі. У першым раздзеле Сталін прапанаваў наступнае вызначэнне: «Нацыя — гэта ўстойлівая супольнасць людзей, што склалася гістарычна, аб'яднаных агульнасцю мовы, тэрыторыі, эканамічнага жыцця і псіхічнага складу, які выяўляецца ў супольнасці культуры». Заўважыўшы, што нацыя ёсць з'ява гістарычная, і таму яна «мае сваю гісторыю, пачатак і канец», Сталін зрабіў цікавую метадалагічную выснову: «Толькі наяўнасць усіх прыкмет, узятых разам, дае нам нацыю».

Неабходна адзначыць, што вызначэнне нацыі як сацыяльна і гістарычна абумоўленай з'явы, дадзенае Сталіным, адрознівае нацыю ад народа — як сацыяльнага арганізма, які праходзіць на працягу гісторыі скрозь розныя формы арганізацыі культурнага (нацыянальнага) жыцця грамадства ў той ці іншай рэгіянальнай цывілізацыі.

Сталінскае вызначэнне было афіцыйным навуковым вызначэннем нацыі ў СССР і ў паслясталінскія часы, хаця пасля XX з'езда КПСС у большасці выпадкаў на Сталіна не спасылаліся. Уласна тыя ж самыя прыкметы нацыі, якія дае Сталін у сваім вызначэнні, прыводзяцца крыху падфарбаванымі і ў сучасным школьным падручніку «Грамадазнаўства».

Сучасныя беларускія навукоўцы і палітыкі таксама з вельмі вялікай цікавасцю ўжываюць паняцце нацыі. Так, філосаф і метадолаг Уладзімір Мацкевіч бачыць нацыю наступным чынам: «Дык вось, нацыя — мноства ўсіх людзей з аднолькавым дзяржаўным пашпартам. Беларуская нацыя — гэта мноства людзей, у пашпартах якіх напісана «грамадзянін Рэспублікі Беларусь». Усё астатняе ад злога. Маніпуляцыя, дэмагогія, рэзанёрства і спекуляцыі».

Акадэмік адной з расійскіх акадэмій, дзеяч БНФ М. Бурак вызначае нацыю па-свойму: «Маё вызначэнне нацыі такое. Нацыя — гэта цывілізацыйны феномен суверэннага існавання народа ў часе. Народ — гэта этнічна-ментальна-культурна апазнанае мноства людзей, што жывуць у акрэсленай прасторы ў вызначаны час і складаюць грамадства. Грамадства — гэта арганізаванае для сумеснай жыццядзейнасці людзей насельніцтва краю. Гэта калі глядзець звонку, аб'ектыўна. А з пазіцыі ўключанай у грамадства асобы — гэта асяроддзе яе жыццядзейнасці, яе соцыум. Таму соцыум я вызначаю як палітычны, сацыяльны, эканамічны, тэхналагічны, інстытуцыянальны, культурны, духоўны і эмацыянальны стан грамадства, які з'яўляецца кантэкстам самарэалізацыі асобы ў гэтай краіне. Краіна — гэта геапалітычная арганізаванасць суверэннага існавання народа ў свеце. Калі ёсць краіна, дык яе грамадства здольнае да тварэння нацыі — суб'екта Промыслу Божага, суб'екта агульначалавечага цывілізацыйнага працэсу. Гэта для тых, хто здольны да глабальнага сацыяльна-гістарычнага мыслення. А для нас, свядомых беларускіх патрыётаў, нацыя — гэта духоўная цывілізацыйная каштоўнасць, бо праз яе народ ажыццяўляе рэфлексіўны працэс цывілізацыйнага развіцця».

Агульна прынятым сёння з'яўляецца наступнае вызначэнне нацыі: «Нацыя (ад лацінскага "natio" — "племя", "народ") — сацыяльна-эканамічная, культурна-палітычная і духоўная еднасць індустрыяльнай эпохі. Толькі адзінства ўсіх прыкмет складае паняцце нацыі».

Такім чынам, калі мы пачынаем дыскусію, ці ёсць беларусы нацыяй, пажадана адразу вызначыцца, што мы маем на ўвазе. Але амаль усе вышэй згаданыя вызначэнні нацыі можна выкарыстаць, каб сказаць: беларусы — сапраўдная сучасная нацыя. Ёсць праблемы толькі з вызначэннем Сталіна. Менавіта яго выкарыстоўваюць праціўнікі беларускай дзяржаўнасці для ўтварэння ідэалагічнага падмурку аб'яднання Беларусі і Расіі. Яны сцвярджаюць: беларусы ў большасці карыстаюцца рускай мовай, этнічна і псіхалагічна падобныя да рускіх, захапляюцца расійскай літаратурай, эстрадай і іншымі праявамі расійскай культуры. Таму (як яны пішуць у інтэрнэце) прыйшоў час ліквідаваць (выправіць) гэтую гістарычную недарэчнасць (памылку).

Але гэта тэорыя. Для вырашэння праблемы вельмі важна рэальная сітуацыя: менавіта яна — лепшая праверка дакладнасці тэорыі.

### Рэальнасць

У другой палове XX стагоддзя паняцце нацыі стала шырока ўжывацца ў свеце, яе сінонімам стала слова «народ». Пашырылася праца міжнароднай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Але кіраўніцтва Беларусі да паняцця нацыі паставілася спачатку з асцярогай, а потым і з пэўнай варожасцю. У савецкія часы БССР найбольш пацярпела падчас стварэння новаўтварэння «савецкі народ». Для беларусаў «савецкі народ» вызначаўся наступным чынам: гэта рускамоўны, што валодае дасягненнямі рускай і савецкай культуры, аддана кіраўніцтву краіны народ. Стварэнне на прыкладзе Беларусі гэтага «савецкага народу» было важнай ідэалагічнай і практычнай задачай, бо Беларусь ахоўвала заходнія межы СССР. Уся адукацыя — дзіцячая, школьная, вышэйшая — была накіраваная на стварэнне менавіта такіх людзей.

З утварэннем незалежнай Беларусі савецкі народ перайменавалі ў беларускі народ, але па сутнасці ён застаўся савецкім.

Вельмі важным для рэальнага існавання нацыі з'яўляецца наяўнасць у людзей усведамлення прыналежнасці да яе. Узнікненне ўсведамлення прыналежнасці да нацыі ёсць вынік спецыфічнага працэсу — нацыянальнага выхавання. На розных этапах існавання Беларусі нацыянальнае выхаванне ажыццяўлялі розныя структуры беларускага грамадства.

У гады майго дзяцінства, я пыталася ў бацькоў: хто мы? Яны заўсёды адказвалі: «Мы і ты — беларусы. Гэта такая нацыя, не руская. Беларусы — гэта

людзі, якія жывуць у Беларусі і ёсць самыя лепшыя людзі, бо працалюбівыя, добразычлівыя, не подлыя». Падобныя выказванні былі папулярнымі сярод розных плыняў беларускага грамадства, асабліва пасля Другой сусветнай вайны. Гэта быў стыхійны народны адказ на спробу стварыць «новую гістарычную еднасць — савецкі народ». Гэтую тэзу маіх бацькоў падмацоўвалі і перадачы радыё — адзінага на тыя часы сродку масавай інфармацыі і масавага ўздзеяння. Перадачы былі пераважнай большасцю на беларускай мове, давалі добрае ўяўленне не толькі пра дасягненні беларускага палітычнага жыцця, але і культурнага. І хаця перадачы былі дастаткова савецкімі па сутнасці, беларускасць у іх рабіла сваю справу — людзі ведалі беларускую мову з дзяцінства, яна была для іх знаёмай і роднай.

Сям'я і радыё ў тыя часы былі галоўнымі фактарамі ўмацавання і развіцця беларускай нацыі. Жанчыны (маці, бабулі) мелі магчымасць выхоўваць дзяцей, расказваць ім беларускія казкі і паданні, спяваць песні. Жанчыны не былі масава занятыя на працы, дзеці знаходзіліся дома — дзіцячых садкоў не было шмат нават у Мінску. У школах не існавала так званых «прадлёнак», на лета гарадскія дзеці большасцю ехалі да родных у вёску, піянерскія лагеры не лічыліся добрым уладкаваннем дзяцей на лета.

Вынікі тагачаснага нацыянальнага выхавання можна лічыць дастаткова паспяховымі — у розных плынях беларускага грамадства ўзніклі сілы, якія супольнымі намаганнямі стварылі незалежную беларускую дзяржаву — мару любой нацыі, важны этап яе палітычнага развіцця.

Ужо ў 1970–1980-я гады жанчына стала сапраўднай «вытворчай сілай» сацыялістычнага гаспадарання. Дзяцей пачалі аддаваць у садкі, пасля школы — у «прадлёнкі». З побыту беларускіх людзей зніклі спачатку беларускія казкі і паданні, потым песні і кнігі. У пачатку XXI стагоддзя на любых беларускіх сямейных фэстах спявалі ўжо песні, якія ў большасці належалі да расійскай папсы. Сям'я перастала з'яўляцца асноўнай выхавальніцай беларускай нацыі, страціла сваю ролю нацыяўтваральнага фактару.

Напрыканцы XX стагоддзя па сіле ўздзеяння на свядомасць людзей радыё саступіла электронным СМІ. Радыёкропкі, якія ў пасляваенныя гады абавязкова прысутнічалі ў кожнай кватэры, зніклі. Іх замяніла тэлебачанне, якое і па сутнасці, і па форме, і па мове было і застаецца расійскім. У незалежнай беларускай дзяржаве не стала ніякіх сродкаў масавага нацыянальнага выхавання.

Вынікі яго адсутнасці спачатку не былі заўважныя. Але праз дваццаць пяць гадоў існавання Рэспублікі Беларусь на пытанне «Беларусы — гэта нацыя?», я пачула ў адказ — а што, гэта так важна? Што змяніцца ад наяўнасці ці адсутнасці беларускай нацыі? Беларуская дзяржаўнасць, якая ўзнікла перш за ўсё як праява сілы і духа нацыі, пачала страчваць свой падмурак.

Наяўнасць нацыі нельга заўважыць без праяваў нацыянальнай свядомасці, нацыянальнай тоеснасці і нацыянальнай годнасці. Нацыянальная свядомасць ад нацыянальнай тоеснасці адрозніваецца тым, што першая з іх адказвае на пытанне: «Што я думаю пра нацыю як маю групу?» Тоеснасць будзе характарызаваць пытанне: «Што я думаю пра сябе як прадстаўніка нацыі?»

Годнасць чалавека вызначаецца яго маральнымі (праўдзівасць, добрасумленнасць, сціпласць), інтэлектуальнымі і фізічнымі (здароўе, сіла, спрыт, прыгажосць) якасцямі. Яна выяўляецца ў адносінах чалавека да грамадства, у яго здольнасці рабіць дабро. Асноўнай умовай існавання чалавечай годнасці з'яўляецца свабода асобы.

Калі мы прааналізуем сучасны стан нацыянальнай свядомасці, нацыянальнай тоеснасці і нацыянальнай годнасці беларусаў, можна заўважыць таксама значныя саступкі. Беларусы часцей хварэюць, у асноўнай масе не маюць звычкі да заняткаў спортам, зайздросцяць. Бракуе і праўдзівасці — нават з'явілася і зрабілася найпапулярнай прымаўка: «Хто табе праўду скажа!»

З падмурка беларускай нацыянальнай годнасці амаль сышло паняцце «свабоды асобы». Яго выцясняе паняцце неабходнасці дзейнічаць згодна з указаннямі ўлады, нават насуперак свайму сумленню. Усё часцей талерантнасць беларусаў выглядае як пакорлівасць і абыякавасць.

Нацыянальная ідэя — гэта групавы кансэнсус у дачыненні да агульнай памяці і агульных мэтаў. Гэты кансэнсус можа перагледацца з цягам часу, але ён павінен існаваць у кожны момант жыцця нацыі. На жаль, да сёння беларусы не маюць кансэнсусу ў адносінах не толькі да ацэнак свайго мінулага, але і будучыні. Найбольш востра гэта выяўляецца падчас абмеркавання ідэй інтэграцыі Беларусі ў розныя наднацыянальныя ўтварэнні.

Прыхільнікі інтэграцыі спасылаюцца на працэсы глабалізацыі як найбольш важныя і дамінуючыя працэсы развіцця сучаснай цывілізацыі. Эканамічныя змены, сцвярджаюць яны, паказваюць, што пад уздзеяннем глабалізацыі эканамічная самастойнасць большасці нацый (і, адпаведна, іх эканамічнае адасабленне адзін ад аднаго) сышла ў мінулае. Пад уздзеяннем інтэнсіўнага культурнага абмену з-за стварэння агульнай інфармацыйнай прасторы паступова сыходзіць у мінулае і нацыянальныя культурнае адасабленне і адметнасць. Сцвярджаецца, што глабалізацыя з часам сатрэ большасць этнічных каштоўнасцяў, а нацыяналізм і рэлігія ў будучай супольнасці будуць мала заўважныя. «Увесь прагрэсіўны свет трымаецца на двух галоўных кітах — узброеныя сілы і эканоміка (жорсткая сіла і мяккая сіла). Сучасная эканоміка не можа абысціся без інфраструктуры, медыцыны, навукі і адукацыі», — падобная формула будучыні дагэтуль была найбольш папулярнай у значнай часткі кіраўніцтва Беларусі.

Скіраванасць на знікненне нацый зрабіла развіццё «беларускасці» недзяржаўнай справай. Беларуская мова па сутнасці не з'яўляецца дзяржаўнай — дзяржаўныя справаводства, адукацыя (усіх ступеняў), дзяржаўныя СМІ — усё гэта ажыццяўляецца пераважна на рускай мове, для дзеячаў расійскай эстрады і культуры аддаваліся найлепшыя канцэртныя залы, эфірны час. Выкараненне нацыянальнай свядомасці суправаджалася русіфікацыяй — спачатку з двухсэнсоўнага («Беларусы — гэта рускія са знакам якасці»), затым «на беларускай мове нічога значнага стварыць немагчыма», адкрытага прыніжэння ведання нацыянальнай гісторыі і літаратуры з боку кіраўніка дзяржавы. Потым — Беларусь эканамічна не здольная для існавання, яна ў свеце нікому не патрэбная (гэта стала нават палітычным аргументам). Зараз ужо ідзе гаворка пра неабходнасць абароны Беларусі з боку Расіі (праўда, пакуль невядома ад каго — абараняцца ад NATO стала не зусім папулярным), стварэння з Расіяй адзінай валюты. Пагроза знікнення беларускай дзяржаўнасці і нацыі стала ўсё больш відавочнай.

Для нацый ва ўсе часы характэрныя не столькі агульнасць эканамічнага жыцця, колькі агульнасць сэнсу жыцця, які выходзіць за межы задавальнення фізіялагічных і бытавых патрэбаў людзей, якія складаюць нацыю. Часта гэта называюць духоўным жыццём нацыі. Калі гэты агульны для людзей сэнс жыцця ёсць, то ёсць і нацыя; калі яго няма, то пры ўсіх іншых прыкметах нацыі маецца не народ, а насельніцтва. Насельніцтва не ў стане доўгі час мець сваю дзяржаву — тым ці іншым спосабам дзяржава, у якой людзі не маюць агульнага сэнсу жыцця, знікае.

### Надзея

Працэс пераўтварэння беларускай нацыі ў насельніцтва найбольш інтэнсіўна адбываўся ў пачатку XX стагоддзя. Ён выклікаў даволі радыкальны пратэст з боку творчай і часткова тэхнічнай і навуковай інтэлігенцыі Беларусі. Вядомы паэт Уладзімір Някляеў нават пераўтварыўся ў апазіцыйнага палітыка. Разам з тым, ні ўлады Беларусі, ні апазіцыйныя лідары не змаглі прапанаваць людзям нацыянальную ідэю, якая б стала сэнсам іх жыцця. Прапанаваныя спачатку дабрабыт, высокія заробкі не сталі прыцягальнымі. Частка моладзі вырашыла, што дабрабыт і найбольшыя заробкі лепш і лягчэй шукаць у іншых краінах. У еўрапейскіх краінах — Польшчы, Чэхіі, Бельгіі, Францыі — і ў ЗША ўжо стварыліся даволі заўважныя беларускія дыяспары. Выезду моладзі спрыяў і распаўсюд думкі пра немагчымасць працы ў дзяржаве, дзе нацыянальнае, беларускае вынішчаецца і прыніжаецца. Палітычная апазіцыя таксама садзейнічала выезду — палітычныя ўцекачы найбольш хутка ўладкоўваліся ў іншых краінах.

Не стала асабліва паспяховай і спроба пашырэння сфераў ужытку беларускай мовы. Але яна дала нечаканы вынік — людзі, якія размаўляюць у жыцці на беларускай мове, усё часцей успрымаюцца грамадствам як нацыянальная эліта. Неабходнасць наяўнасці, актывізацыі і папулярызацыі нацыянальнай эліты як найлепшай часткі беларускіх людзей стала адчувальнай.

Працэсы разбурэння нацыі апошнія два гады сталі заўважнымі і для кіруючых элітаў Беларусі. Тыя з іх, хто зацікаўлены ў існаванні і развіцці беларускай дзяржаўнасці, прапанавалі і зрабілі спробу ажыццявіць палітыку «мяккай беларусізацыі». З'явіліся вышыванкі, на тэлебачанні сталі расказваць пра беларускіх мастакоў і культурных дзеячаў, больш ужываць беларускай мовы падчас інфармацыйных і спартовых перадач. Але ў цэлым адбывалася «беларусізацыя» вельмі сціпла, супярэчліва, па формуле — «крок наперад — два назад». Таму выклікала справядлівую крытыку ў актыўнай часткі беларускага грамадства. Магчыма, гэтая крытыка была пачутая. Магчыма, кіруючыя эліты Беларусі ў сувязі з падзеямі ва Украіне нарэшце самі зразумелі неабходнасць умацавання нацыянальнага падмурка дзяржаўнасці — арганізацыя і правядзенне Еўрапейскіх гульняў у Беларусі публічна і галасна засведчыла, што беларусы з'яўляюцца нацыяй. Са сваёй адметнай гісторыяй, з надзеямі на будучыню.

Важна, каб гэтае сведчанне не згубілася, было падтрыманае шырокімі коламі людзей і арганізацый.

Нацыянальная ідэя — як сэнс будучыні Беларусі і беларусаў — чакае сваіх стваральнікаў.



**Для нацый ва ўсе часы характэрныя не столькі агульнасць эканамічнага жыцця, колькі агульнасць сэнсу жыцця, які выходзіць за межы задавальнення фізіялагічных і бытавых патрэбаў людзей. Калі гэты агульны сэнс ёсць, то ёсць і нацыя; калі яго няма, то пры ўсіх прыкметах нацыі маецца не народ, а насельніцтва**



## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. Дэкамунізаваць банкноту

Нацыянальны банк Украіны паведаміў пра планы ўвесці новую банкноту наміналам 1000 грыўняў з выявай акадэміка Уладзіміра Вярнадскага. Між тым, Вярнадскі пры жыцці паспеў не толькі папрацаваць з украінскім гетманам Скарападскім, які даручыў яму стварыць нацыянальную акадэмію. Значна больш ён працаваў на Саветы, атрымаўшы ў якасці падзякі Сталінскую прэмію і асабняк на Арбаце. У сувязі з гэтым некаторыя патрабуюць ад Нацбанка перагледзець папярэдняе рашэнне ў рамках закону пра дэкамунізацыю. Адначасова прапануюцца персанажы, якія больш вартыя ўпрыгожваць банкноты. Сярод іх —дысідэнт Пётр Грыгарэнка, міфічны казак Мамай і нават крымска-татарскі хан. Самая арыгінальная прапанова — змясціць на купюру чорны квадрат Малевіча, якога ў Кіеве лічаць украінцам. Зрэшты, большасць людзей цікавяць не малюнкі на новай купюры, а тое, як яе з'яўленне адаб'ецца на цэнах. Тым больш, што паралельна Нацбанк заявіў: з ужытку выводзяцца манеты 1, 2, 5 і 25 капеек. Зрэшты, эканамісты абяцаюць, што новыя грошы ніяк не паўплываюць на рост цэнаў.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### КАЛУМБІЯ. На д'ябла з верталётам

Горад Буэнавентура, што ў Калумбіі, даўно стаў галаўным болем для ўсёй лацінаамерыканскай грамадскасці. Справа ў тым, што ў ім вельмі моцная злачыннасць, знішчыць якую сілы правапарадку не здольныя. Толькі за апошні год у горадзе з насельніцтвам сто тысяч чалавек колькасць забойстваў вырасла з 30 да 50 выпадкаў. Пасля таго, як напачатку чэрвеня на вуліцы была забітая дзесяцігадовая дзяўчынка, руку дапамогі паліцыі нечакана працягнуў Касцёл. Біскуп Рубен Дарыё Харамільё Мантоя прапанаваў правесці ў небе над горадам рытуал выгнання д'ябла, які, на яго думку, прапісаўся ў населеным пункце. Ініцыятыву падтрымала армія — у распараджэнне біскупа перадалі верталёт, з борта якога ён збіраецца акрапіць горад святой вадой. Святар упэўнены, што ў выніку рытуалу, які прызначаны на 13–14 ліпеня, дэманы будуць выгнаныя з Буэнавентуры. Зрэшты, некаторыя скептычна ставяцца да яго словаў. У тым ліку арганізацыя «Human Rights Watch». Яе супрацоўнікі ўскладаюць адказнасць за рост злачыннасці на парамілітарныя арганізацыі, якія ўрад выкарыстоўвае супраць мясцовых партызан і заплюшчвае вочы на іх злачынную дзейнасць.

**Паводле іспанскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Назарбаеў ідзе ў оперу

Казахскія журналісты даведаліся, што ў сталічным оперным тэатры адбываюцца рэпетыцыі пастаноўкі ў гонар першага кіраўніка Казахстана — Нурсултана Назарбаева. Твор называецца вельмі патэтычна: «Шлях, асветлены сонцам». Не менш пафасны і змест партытуры. Галоўны саліст спявае партыю, у якой ёсць наступныя словы: «Прызваны выконваць волю Творцы на Зямлі! Прызваны выконваць волю Творцы на Зямлі! Прызваны выконваць волю Творцы на Зямлі! Прызваны выконваць...». Не дзіўна, што некаторыя артысты адмовіліся ўдзельнічаць у гэтым шоу. Зрэшты, з імі тут жа паабяцалі разарваць працоўныя кантракты, і цяпер слугі Мельпамены паслухмяна вучаць свае партыі. Але на гэтым скандал не скончыўся. Пайшлі чуткі, што аўтарам оперы лічыцца 20-гадовы сын віцэ-спікера казахскага парламента. Так ці інакш, працэс узвелічэння Елбасы метадамі опернага мастацтва запушчаны. На пачатак ліпеня прызначаная генеральная рэпетыцыя «Шляху, асветленага сонцам».

**Паводле казахскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. ГДР захапіла ФРГ?

У Берліне рыхтуюцца адзначыць важную дату — 30-ю гадавіну аб'яднання Германіі. Менавіта 30 гадоў таму ў Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы пачаліся грамадзянскія пратэсты. Увосень сістэмны крызіс усходненямецкай дзяржавы стаў настолькі відавочным, што тая далучылася да Заходняй Германіі. І вось цяпер некаторыя палітолагі мяркуюць, што ў 1989-м не ФРГ уключыла ў свой склад ГДР, а наадварот. Аматары гэтага незвычайнага тэзісу звяртаюць увагу, што палітычная культура Германіі за апошнія тры дзесяцігоддзі моцна змянілася. Немцы ў плане палітычнай актыўнасці сталі больш пасіўнымі, для іх прыярытэтам робіцца бытавы камфорт. Адначасова вельмі моцна ўзрос аўтарытэт дзяржавы. Такі светапогляд некаторым нагадвае формулу жыцця жыхароў ГДР. З той толькі розніцай, што ролю любімай партыі зараз выконвае Ангела Меркель, якую немцы часта называюць Mutti (матуля). За 14 гадоў знаходжання пры ўладзе Mutti, мяркуюць, навязала немцам такія моцныя патэрналісцкія забабоны, што тыя па-сутнасці гатовыя забыцца на дэмакратычныя каштоўнасці. «Хіба гэта не перамога ГДР над ФРГ?» — пытаюцца аўтары версіі. Тэорыя вельмі правакатыўная, калі ўзгадаць, што Ангела Меркель паходзіць з ГДР, дзе да 1989 года была, па вялікім рахунку, лаяльнай да рэжыму.

**Паводле нямецкай прэсы**

# Знаёмцеся — кліматычныя паўстанцы

*Алег НОВІКАЎ*

**Нядзольнасць цяперашніх урадаў вырашыць праблему глабальнага пацяплення штурхае абаронцаў клімату да радыкалізму. Ці пагражае свету кліматычная вайна?**




Фота www.pressherald.com

Сем нябожчыкаў. Гэта вынік толькі першага дня панавання жудаснай спякоты, што прайшла па Еўропе. Акрамя чалавечых ахвяраў, не абышлося без лясных пажараў, транспартных калапсаў, парушэння графіку працы шматлікіх установаў... А што робіць улада? Падаецца, што ўрады здольныя толькі выказваць глыбокую заклапочанасць і весці безвыніковыя міжнародныя кансультацыі.

Не дзіўна, што сярод часткі эколагаў фарміруецца ўстаноўка: пратэставаць ужо недастаткова. Прыйшоў час атакаваць тых, хто адказны за кліматычную катастрофу.

Варта нагадаць, што феномен экалагічнага радыкалізму — не навіна. Дастаткова ўзгадаць Фронт вызвалення жывёлаў (ALF) — заснаваны ў 1976 годзе міжнародны падпольны рух, што практыкуе «прамыя дзеянні» для вызвалення жывёлаў, якія знаходзяцца ў няволі. І гэта, дарэчы, зусім не смешна. ALF атакаваў не толькі цыркавыя вальеры або лабараторыі фірмаў, што праводзілі доследы на жывёлах. Аб'ектамі атак ALF у ЗША былі фермерскія гаспадаркі і лакальныя энергетычныя сістэмы. Хапала ў Фронту вызвалення жывёлаў і паслядоўнікаў. Напэўна, адзнакі крыміналу прысутнічаюць у акцыях вядомай групоўкі «Greenpeace», якая любіць блакаваць тыя ж кітабойныя караблі. Дыверсіямі на атамных станцыях ЗША займалася ў 1980-я гады групоўка «Earth First!» (Зямля перш за ўсё!)

Праўда, пік актыўнасці згаданых вышэй арганізацый прыпадаў на мінулае. Цяпер на сцэну выходзіць новая генерацыя экалагічных радыкалаў. За прыкладам хадзіць далёка не трэба: 23 чэрвеня некалькі тысяч эколагаў з выкарыстаннем гвалту паспрабавалі захапіць нямецкую вугальную электрастанцыю «Гарцвайлер». Падчас сутыкненняў былі параненыя некалькі супрацоўнікаў паліцыі.

Акцыя эколагаў была настолькі нахабнай і правакацыйнай, што некаторыя каментатары пабачылі ў ёй праявы грамадзянскай вайны. Іншыя цалкам разумеюць такую логіку пратэстоўцаў. Нават мэйнстрым-медыя дапускаюць, што ў чалавецтва ёсць прыкладна 12 гадоў для таго, каб спыніць глабальнае пацяпленне і не дапусціць канца жыцця на планеце. Драматургія сітуацыі нібы дазваляе легітымізаваць любыя ўчынкі ў абарону клімату.

А ў некаторых краінах прыхільнікі такой думкі ўжо фармуюць структуры, каб дзейнічаць больш эфектыўна. Піянерам тут, напэўна, сталі Нідэрланды, дзе паўсталі ініцыятывы «Shell must fall», «Extinction rebellion» і іншыя. На рахунку галандцаў перакрыццё ў імя абароны клімату аўтабанаў, захоп парламенцкай трыбуны, зрыў афіцыйных цырымоній, сабатаж працы ў офісах буйных кампаній, якія ігнаруюць экалагічныя стандарты...

Пры гэтым актывісты намагаюцца данесці пасланне — эпоха традыцыйных пасіўных формаў экапратэсту, накшталт складання петыцый або галасавання за партыю «Зялёных», прайшла. Час, мяркую, вымагае больш радыкальных крокаў у выглядзе «экалагічных інтэрвенцый».

Пры гэтым праграмныя забабоны кліматычных паўстанцаў яўна выходзяць за межы апартуністычных патрабаванняў — зацвердзіць урэшце пакет міжнародных пактаў, якія скароцяць выкіды $CO_2$ у атмасферу. Праваднікі — прынамсі, нідэрландскага філіялу «Extinction rebellion» — не вераць у выратаванне чалавецтва без ліквідацыі буйных энергетычных карпарацый і перадачы ўсёй улады саветам грамадзянаў на месцах. У гэтай схеме таксама няма месца цэнтральнаму ўраду, сістэме прадстаўнічай дэмакратыі, і нават Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Тое, што асобы з такімі радыкальнымі поглядамі і салідным бэкграўндам у галіне арганізацыі пратэстаў знаходзяцца на свабодзе, напэўна, можна растлумачыць па-рознаму. Найперш, такі падыход не супярэчыць аксіёмам еўрапейскай палітычна-прававой культуры. Наадварот, лічыцца пазітыўна публічна праяўляць сваю грамадзянскую пазіцыю, нават у чымсьці радыкальную.

Не выключана, што алармізм наконт клімату ў Еўропе дасягнуў такога ўзроўню, што вялікая частка грамадства гатовая патрымаць радыкалаў, не звяртаючы ўвагу на іх маніфесты. Сапраўды, рэпартажы пра кліматычных актывістаў або інтэрв'ю з іх каардынатарамі можна прачытаць у перадавых еўрапейскіх медыя.

Можна дапусціць і такі чыннік, як моцнае лобі, што стаіць за арганізацыямі, накшталт «Extinction rebellion». Ёсць версія, што псіхоз на тэме глабальнага пацяплення штучна падтрымліваецца буйнымі банкамі, якія вырашылі прымусіць аўта- і авіяіндустрыю пераходзіць на больш экалагічнае абсталяванне. Такая маштабная мадэрнізацыя прымусіць канцэрны звярнуцца па крэдыты ў банкаўскія ўстановы.

Так ці інакш, кліматычны радыкалізм робіцца на Захадзе папулярным трэндам. Пытанне толькі ў тым, ці не выйдзе ён за межы негвалтоўных акцый? Пакуль усе лідары радыкальных кліматычных праектаў клянуцца ў вернасці пастулатам Марціна Лютэра Кінга і Махатмы Гандзі, якія дапускалі выключна мірнае грамадзянскае непадпарадкаванне. Заставацца ў этычных рамках заклікаюць эколагаў аўтарытэтныя інтэлектуалы. На іх думку, гвалт можа дыскрэдытаваць кліматычны грамадзянкі рух, які мае шанец не толькі выратаваць планету, але і цалкам змяніць палітычныя прынцыпы арганізацыі нашай цывілізацыі.


Фота www.stihi.ru

# Кампенсацыя для дзядзькі Тома

Алег НОВІКАЎ

**За акіянам зноў збіраюцца выдаваць афраамерыканцам грошы за эксплуатацыю іх прашчураў у часы рабаўладання. Калі рэалізаваць ідэю, кожны нашчадак раба павінен атрымаць каля 140 тысяч долараў.**

Часам лепш маўчаць, чым гаварыць. Справядлівасць гэтай прымаўкі давёў выпадак з Мітчам МакКонелам, лідарам рэспубліканскай большасці ў Сенаце. 18 чэрвеня ён нечакана выдаў рэзанансны пасаж адносна ідэі кампенсацыі для нашчадкаў рабоў. Сенатар сказаў, што ЗША не павінны несці адказнасць за тое, што адбывалася ў краіне 150 гадоў таму. Тым больш, на думку палітыка, калі адказных за тыя падзеі ўжо няма.

Заява абурыла ўвесь амерыканскі цэх юрыстаў. Калі пагадзіцца з логікай рэспубліканца, атрымліваецца, што дзяржава нясе адказнасць выключна за жывых грамадзян. Другі абсурд выказвання заключаецца ў тым, што ўрад ЗША дасюль выплачвае кампенсацыі тым, чые прадзеды, будучы жаўнерамі, загінулі падчас Грамадзянскай вайны 1861–1865 гадоў. Нарэшце, ёсць прэцэдэнты і адносна этнічных групаў. За часамі Рэйгана ўрад ЗША выплаціў кампенсацыі памерам у 20 тысяч долараў амерыканскім грамадзянам японскага паходжання, якіх у час вайны прымусова інтэрнавалі ў спецыяльныя лагеры.

Прававая непісьменнасць сенатара дазволіла прыхільнікам ідэі кампенсацый узняць хайп па гэтым пытанні. Увогуле, упершыню ідэю кампенсацый або рэпарацый за рабства агучыў адзін з кангрэсменаў у 1989 годзе. Прапанову ўспрымалі, хутчэй, як кур'ёз прыкладна да 2014-га, калі выйшла некалькі тэматычных публікацый. З таго часу законапраект пра кампенсацыі або рэпарацыі, які зарэгістраваны ў Кангрэсе як Біль H.R.40, прысутнічае ў амерыканскай палітычнай павесцы і актыўна лабіруецца адной з фракцый дэмакратаў.

Натуральна, лепшым аргументам за прыняцце Біля H.R.40 з'яўляецца лічбавы баланс эпохі рабаўладання. Паводле некаторых гісторыкаў, за гэты час белыя амерыканцы забілі ў розных формах каля 1,4 мільярда рабоў. Прычым менавіта на іх эксплуатацыі і паўстаў эканамічны фундамент ЗША. На 1840 год амаль 50% гаспадарчай дзейнасці Злучаных Штатаў былі звязаныя з сектарам вытворчасці бавоўны. А на баваўнавых плантацыях працавалі, як вядома, выключна рабы.

Даўно ўжо ідзе праца і над канчатковым рахункам за рабства, які павінна атрымаць амерыканская адміністрацыя. На гэты конт ёсць розныя калькуляцыі, аднак у любым выпадку сума атрымліваецца фантастычная — да 4,7 трыльёна долараў. Гэта азначае, што кожнаму афраамерыканцу належыць выплаціць каля 142 тысяч баксаў.

**Сярод праціўнікаў H.R.40 хапае і афраамерыканцаў. Законапраект не падабаецца экс-прэзідэнту Бараку Абаму, які бачыць у кампенсацыях пагрозу для сацыяльнай мабільнасці афраамерыканцаў**

На контрзаявы пра тое, што бюджэт Злучаных Штатаў не пацягне такіх выдаткаў, ёсць свае довады. Па-першае, краіна канчаткова перагорне змрочную старонку сваёй гісторыі, якая таксічная нават зараз. Па-другое, кампенсацыі, мяркую, дазволяць шмат каму з афраамерыканцаў пачаць сваю справу, што, як вынік, дазволіць скараціць сацыяльна-эканамічную прорву паміж прадстаўнікамі розных расаў. На цяперашні дзень сярэднестатыстычная афраамерыканская сям'я акумулюе толькі 10 працэнтаў багацця адносна сярэдняй белай сям'і. Між тым, сацыяльная роўнасць грамадзян, як вядома, — адна з умоваў адзінства краіны.

Апаніруючы бок звяртае ўвагу на прававую недасканаласць ідэі рэпарацый. Калі ЗША пагодзяцца на рэпарацыі, то абкладуць адпаведным падаткам і нашчадкаў тых, хто змагаўся за ліквідацыю рабства. Таксама вядома, што галоўным звяном лагістыкі дастаўкі рабоў у Злучаныя Штаты былі розныя афрыканскія цары і князі. Менавіта яны палявалі на прадкаў цяперашніх афраамерыканцаў і юрыдычна ператваралі іх у рабоў, якіх пасля прадавалі янкі. Такім чынам, адказных за інстытут рабства трэба шукаць на Чорным кантыненце.

Цікава, што сярод праціўнікаў H.R.40 хапае і афраамерыканцаў. Напрыклад, законапраект не падабаецца экс-прэзідэнту Бараку Абаму, які бачыць у кампенсацыях пагрозу для сацыяльнай мабільнасці афраамерыканцаў. Сістэма льготаў і без таго культывуе сярод іх паразітычны лад жыцця. Такія афраамерыканцы, як Абама, думаюць, што афіцыйных заяваў Кангрэса і Сената ў 2008–2009 гадах з выбачэннямі за часы рабства дастаткова, каб забыцца на мінулае і рухацца наперад.

На думку іншых чарнаскурых крытыкаў ідэі рэформы, тэма рабства — вельмі далёкая ад рэалій цяперашняй афраамерыканскай камуны. Значна больш важным выклікам для яе з'яўляецца крыміналізацыя. Сёння ў амерыканскіх турмах сядзіць мільён афраамерыканцаў, а смерць падчас крымінальных разборак — найбольш распаўсюджаная прычына гібелі для маладых чарнаскурых. Нарэшце, выплаты кампенсацый афраамерыканцам будуць адбывацца ў тым ліку за кошт падаткаў на белых амерыканцаў, што ўзмоцніць падзел паміж грамадзянамі і выкліча канфрантацыю.

Цяжка сказаць, хто мае рацыю ў гэтай дыскусіі. Тым не менш, нельга забывацца, што неўзабаве адбудуцца прэзідэнцкія выбары, а галасы афраамерыканскай грамады могуць быць вырашальнымі. Таму кампенсацыі могуць стаць адной з найважнейшых тэмаў дэбатаў кандыдатаў з самымі непрадказальнымі наступствамі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Ірына Влах



Лідары краін СНД любяць пераабірацца з велізарным адрывам ад канкурэнтаў. Малдоўскі палітык уцерла ім нос: 1 ліпеня Ірына Влах была пераабраная на пасаду башкана (кіраўніка) Гагаузскай аўтаноміі, набраўшы 91,93 працэнта (!) галасоў выбаршчыкаў.

Прычым асаблівых пытанняў наконт празрыстасці выбарчага працэсу або падліку галасоў у назіральнікаў не ўзнікла. Сакрэт поспеху Влах, на думку экспертаў, у тым, што яна актыўна рэалізуе сацыяльныя праекты. У адрозненне ад іншых малдоўскіх рэгіянальных лідараў, Ірына Влах мае пад свае ініцыятывы салідны матэрыяльны рэсурс. Расія і Турцыя ў сілу шэрагу прычын актыўна працуюць з гагаузамі (цюркі праваслаўнага веравызнання). Напрыклад, усё, што вырабляецца ў аўтаноміі, можа свабодна прадавацца на рынках РФ.

У Гагаузіі, дзякуючы турэцкім інвестыцыям, з'явіўся водаправод і найлепшыя ў Малдове дарогі.

Застаецца ўзгадаць цікавы факт: перамога Влах узмацніла трэнд жаночага твару малдоўскай улады. Прэзідэнт Ігар Дадон апынуўся ў асяроддзі спікера парламента Зінаіды Грэчанай, прэм'ер-міністра Маі Санду, шасці (з 12) жанчын-міністраў, а цяпер яшчэ і башкана Гагаузіі Ірыны Влах. Шмат хто ў Малдове спадзяецца, што жанчыны ва ўладзе будуць больш эфектыўнымі, чым папярэднікі-мужчыны, пры якіх краіна стала самай беднай у Еўропе.

### Камала Харыс



Спроба стаць кандыдатам на пасаду прэзідэнта ЗША ад дэмакратаў сенатаркі ад Каліфорніі спачатку выглядала як самарэклама. Аднак цяпер у Камалы Харыс сапраўды з'явіліся шансы.

Літаральна за пару дзён яе рэйтынг сярод прыхільнікаў дэмакратаў вырас так моцна, што Камала Харыс абышла Берні Сандэрса і Элізабет Уорэн — вельмі аўтарытэтных і дасведчаных палітыкаў. У іх 15 працэнтаў падтрымкі, а Харыс сімпатызуюць 17 працэнтаў дэмакратаў.

Поспех Харыс, безумоўна, — вынік апошніх дэбатаў дэмакратаў, падчас якіх яна агрэсіўна крытыкавала сваіх візаві за непаслядоўнасць у жаночым і расавым пытаннях. Праз дэбаты пра яе даведалася ўся краіна, а сама яна стала кумірам феміністак і афраамерыканцаў. Паколькі чарнаскуры бацька Харыс паходзіць з Ямайкі, а маці — індыянка, яе таксама любяць мясцовыя нацменшасці.

Цяпер Харыс трэба замацаваць поспех, каб праз сем месяцаў даць першы бой Джо Байдэну, які пакуль займае першы радок у сацыялагічных апытаннях (32 працэнты). Да гэтага часу прэтэндэнты ў кандыдаты ад дэмакратаў павінны правесці яшчэ 11 раўндаў дэбатаў, якія, канешне, паўплываюць на стартавыя расклады.

### Сяргей Шойгу



Міністр абароны Расіі збіраецца стаць першым у гісторыі кіраўніком Мінабароны, які паралельна будзе выконваць функцыі кінапрадзюсара. Дэпартамент Шойгу вырашыў стварыць асобную кінастудыю.

На думку генералаў, у краіне дэфіцыт патрыятычных фільмаў — напрыклад, пра барацьбу цяперашніх расійскіх сілавікоў з міжнароднымі тэрарыстамі. Гэты прабел і будзе ліквідаваны за кошт прадукцыі расійскага Галівуда ад Мінабароны пад назвай «Патрыёт».

Ідэя з ведамаснай кінастудыяй — абсалютна новае слова ў гісторыі кааперацыі вайскоўцаў і кінаіндустрыі. Звычайна, вайсковыя структуры намагаюцца будаваць кантрактныя адносіны з кінастудыямі, патрабуючы ад тых выяўляць вайскоўцаў у асобна ўзятым фільме ў максімальна пазітыўным ракурсе. За гэта стваральнікі карціны, як правіла, атрымліваюць права бясплатна выкарыстоўваць вайсковую тэхніку.

Што да эксперыменту Шойгу, большасць кінакрытыкаў прагназуюць яму правал. Нават больш прафесійныя студыі ў Расіі, калі здымаюць фільмы пра вайскоўцаў, выдаюць вельмі слабы прадукт і допускаюць пры гэтым мноства ляпаў. Увогуле, галоўныя праціўнікамі Галівуда ад Мінабароны РФ, хутчэй, будуць самі вайскоўцы, якія банальна не зразумеюць, нашто міністэрству Шойгу марнаваць грошы на кіно, а не выдаткоўваць іх на заробкі вайскоўцаў.

# Праметэізм. Польская зброя супраць Сталіна



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У 1920–1930-я гады ў Еўропе распаўсюдзіўся грамадска-палітычны і культурна-інтэлектуальны рух, накіраваны супраць імперскіх памкненняў Савецкага Саюза. Адным з галоўных цэнтраў праметэйскага руху была міжваенная Другая Рэч Паспалітая.**

## Свабоду ўскраінам імперыі!

Рыжская мірная дамова скончыла кровапралітную вайну паміж Польшчай і Саветамі. Разам з тым у Варшаве разумелі, што Крэмль не збіраецца развітвацца з ідэяй сусветнай рэвалюцыі, а значыць, будзе імкнуцца змагацца супраць Польшчы, якая ператварылася ў крапасную сцяну, што ахоўвала Еўропу ад бальшавізму. Эліты Другой Рэчы Паспалітай разумелі, што толькі аслабленая Расія перастане думаць пра будаўніцтва імперыі і пачне займацца ўласнымі праблемамі. Дзеля гэтага ад Масквы трэба было адарваць краіны, якія тая сілай прыцягнула да сябе.

Яшчэ ў 1904 годзе будучы кіраўнік польскай дзяржавы Юзаф Пілсудскі прапанаваў японцам у іх барацьбе супраць Расіі зрабіць стаўку на нерускія ўскраіны імперыі Раманавых. Пры гэтым, канешне, галоўнымі былі інтарэсы Польшчы, якая на той момант таксама была ў межах Расійскай імперыі. Па сутнасці, праметэізм быў часткай федэралісцкай ідэі «начальніка польскай дзяржавы», які ўспрымаў Літву, Беларусь і Украіну як асобныя — няхай і звязаныя з Польшчай — дзяржавы. Дзякуючы праметэйскай ідэі палякі імкнуліся данесці да нерускіх народаў Савецкага Саюза ідэю, што маскоўская імперскасць — вораг не толькі для Другой Рэчы Паспалітай, але і для азербайджанцаў, грузінаў, армян, украінцаў, беларусаў і іншых народаў, якія знаходзяцца ў імперскім ярме.

## Беларускае пытанне

У 1920-я гады ў Польшчы ўбачыў свет часопіс «Przymierze», які пазіцыянаваў сябе як «выданне народаў, якія шукаюць вызвалення». Шмат яго публікацый было прысвечана ўкраінскім і каўказскім пытанням, аднак сярод іншых у выданні быў апублікаваны артыкул «Беларускія палітычныя пастулаты» аўтарства Браніслава Тарашкевіча.

«Нацыянальнае беларускае адраджэнне паспрыяла развіццю і беларускай палітычнай думкі. Яшчэ панавала цэнтралізаваная царская Расія, а ўжо ў 90-х гадах (маюцца на ўвазе 1890-я. — Рэд.) Беларуская сацыялістычная грамада прадставіла праграму незалежнасці Беларусі ў федэрацыйным саюзе з этнаграфічнай Літвой з сумеснай сталіцай у Вільні. Ужо тады было зразумела, што толькі разам з іншымі паняволенымі народамі Беларусь зможа дамагчыся права на свабоду, і толькі ў сувязі з імі гэтую свабоду атрымаецца захаваць. [...] Беларускі селянін, які не ведае, што такое маскоўская «абшчына», які з'яўляецца прыхільнікам індывідуальнай гаспадаркі і жадае валодаць зямлёй як уласнік. Ён ніколі не пагодзіцца на камуну, не верыць у яе магчымасці, з'яўляецца станоўчым ворагам камуністычнай сістэмы і панавання камісараў. Пасля цяжкай вайны, якую, як лічыць народ, «прыдумаў цар», пасля цяжкай нямецкай акупацыі, пасля дзікіх бальшавіцкіх эксперыментаў да сялян прыходзіць разуменне, што «мы павінны самі кіраваць у сваім краі». Бальшавікі, якія ў разуменні псіхалогіі мас не маюць сабе роўных, ідуць на сустрэчу гэтым настроям — 1 студзеня 1919 года выдаюць маніфест часовага працоўна-сялянскага ўраду савецкай Беларусі». [...]



Юзаф Пілсудскі, 1930-я гады



Польскія чыноўнікі і вайскоўцы назіраюць за Мінскам. 1930-я гады. Душкава



Памежнік КАП. 1930-я гады

Нянавісць да тэрарыстычнай палітыкі бальшавіцкіх камісараў накіравала беларускія сімпатыі ў бок Польшчы. [...] Сёння больш, чым калі б тое ні было, стала ясна, што не толькі Беларусь і Украіна не змогуць стварыць незалежнасць і ўтрымаць яе, не толькі Літва, Латвія, Эстонія, але і Польшча і Фінляндыя не змогуць утрымацца, калі ўсе гэтыя дзяржавы не змогуць устанавіць моцны саюз», — адзначаў беларускі палітычны дзеяч у праграмным артыкуле.

На жаль, яго ідэі не атрымалі падтрымкі з боку польскіх уладаў, а ў міжваенныя дваццацігоддзе сам Тарашкевіч ператварыўся ў прыхільніка камуністычных ідэй, за што і паплаціўся жыццём.

**Праметэйскі рух меў вялікі вайсковы патэнцыял, які Другая Рэч Паспалітая не змагла выкарыстаць. Польскі Галоўштаб нават не звяртаў увагу на магчымасць стварэння нацыянальных беларускіх і ўкраінскіх падраздзяленняў у сваім войску**



Rok I. Warszawa, 29 Sierpnia 1920 r. N-r 3.

Przymierze

Czasopismo niezależne, poświęcone sprawom wyzwalających się narodów

WYCHODZI CO TYDZIEŃ

Prenumerata do 1 stycznia r. 1921 200 mk., numer pojedyńczy 10 mk., ogłoszenia 5000 mk. strona.
Redakcja i Administracja — Warszawa, Mokotowska 7 m. 18, otwarta od 5 do 7.

Treść: W. Wakar — Ratowanie państwa. — Jan Młot — Kwestja Rusi Czerwonej.—B. Taraszkiewicz — Białoruskie postulaty polityczne. — Łotwa współczesna:—Łotewskie partje polityczne. — Sprawy gospodarcze Łotwy. — Reforma rolna na Łotwie. — Konferencja baltycka.—Powstanie na Ukrainie.—Kronika.—Varia.

Ratowanie państwa.

Dni klęski, które w tej chwili przeżywamy, wiele dają do myślenia. Przecież ten cały kataklizm wszech europejski, jaki przechodzi świat od lat kilku, zawiera

Wstrząśnienie przez wojnę wszystkiemi podwalinami bytu europejskiego, wszystkiemi podstawami współżycia społecznego i większą częścią wartości

Тытул часопіса «Przymierze»

## Баявое прымяненне

У 1930-я гады варшаўскія стратэгі сталі надаваць менш увагі сваім заходнім суседзям і канцэнтраваліся на працы з народамі Каўказу. Адну з галоўных роляў тут адыгрывалі грузіны, аб'яднаныя ў Грузінскую вайсковую арганізацыю. Частка з іх жыла ў Францыі. Іншыя служылі ў Войску Польскім у якасці афіцэраў-контрактнікаў. Польскае вайсковае камандаванне планавала стварыць дыверсійную групу з грузінаў, якіх рыхтавалі на працягу двух тыдняў. Дыверсантаў вучылі падрыўной справе, выкарыстанню хімічных рэчываў, арганізацыі партызанскіх груп. Варта адзначыць, што падчас Другой сусветнай вайны грузінскія афіцэры-кантрактнікі мужна баранілі Польшчу ад нацыстаў, а некаторыя сталі ахвярамі сталінскіх рэпрэсій.

Пасля падпісання польска-савецкай дамовы аб ненападзе ў 1932 годзе праметэйскі рух быў накіраваны, перш за ўсё, на палітычную дыверсію супраць Савецкага Саюза. Аднак пасля смерці Пілсудскага польскія ўлады пачалі стрымана ставіцца да дыверсантаў з ліку прыхільнікаў праметэізму. Звязана гэта было яшчэ і з тым, што ДПУ/НКУС эфектыўна знішчала антысавецкае падполле ва Украіне, на Каўказе і Туркестане. У структуры Галоўштабу Войска Польскага арганізацыяй дыверсій супраць СССР займаўся аддзел «Група XIII «Расія». З 1932 года ён стаў называцца падрэферат «Расія», а ў 1934 годзе быў створаны рэферат «В» — «Усход». Пазней Экспазітура №2 польскай выведкі стварыла «Актыўную праметэйскую групу», у склад якой уваходзілі маладыя хлопцы розных нацыянальнасцяў, што праходзілі падрыхтоўку ў сферы падпольнай дзейнасці. Гэтыя людзі павінны былі ўлівацца ў розныя праметэйскія цэнтры ў Еўропе і паступова браць іх пад кантроль. Пры гэтым у задачу падрыхтаваных у Польшчы агентаў уваходзіла «чыстка» шэрагаў арганізацый ад непажаданых элементаў і агентаў Крамля.

У 1934 годзе польская выведка правяла набор на курс спецпадрыхтоўкі сярод праметэйскай моладзі. Адным з цэнтраў, дзе рыхтавалі новую эліту, быў Віленскі ўніверсітэт імя Стэфана Баторыя. Дарэчы, студэнты атрымлівалі стыпендыі польскага ўраду. «Дзеячы праметэйскага руху павінны мець не толькі мускулы і характар, але і інтэлект», — разважалі польскія вайскоўцы.

У канцы 1930-х гадоў камандаванне Войска Польскага стала часцей узгадваць пра праметэйскі рух. У 1937 годзе ў структуры Другога аддзелу Галоўнага штабу Войска Польскага былі створаны Трэці аддзел Планавання і арганізацыі вайсковых дыверсій на чале з падпалкоўнікам Юзафам Скшыдлеўскім. У 1938 годзе была створана арганізацыя «Крэсовыя загончыкі», у склад якой уваходзіла некалькі соцень чалавек. На яе чале стаяў маёр Уладзімеж Дамброўскі. Аднак у Варшаве ўжо разумелі, што вайна ў Польшчу, хутчэй за ўсё, прыйдзе з Захаду, а абараняць Другую Рэч Паспалітую павінны, перш за ўсё, яе грамадзяне, а не іншаземцы.

## Сумны лёс ваеннапалонных

Пасля 17 верасня 1939 года частка былых радавых дзеячаў праметэйскага руху трапіла ў рукі НКУС. Бальшавіцкая выведка звяртала на такіх людзей асаблівую ўвагу. Сярод іншых у рукі чэкістаў трапіў азербайджанец Караеў, які на допытах прызнаўся, што па рэкамендацыі аднаго з лідараў эміграцыі быў накіраваны ў Польшчу для праходжання службы ў Войску Польскім з перспектывай выкарыстання ў дыверсійнай вайне супраць СССР.

Цікава, што азербайджанец праходзіў службу ў 6-м палку пяхоты легіёнаў у Вільні. На жаль, далейшы лёс «палоннага» нам не вядомы.

Канешне, гісторыя не мае ўмоўнага ладу, аднак сёння можна з упэўненасцю сказаць, што праметэйскі рух меў вялікі вайсковы патэнцыял, які Другая Рэч Паспалітая не змагла выкарыстаць. Да таго ж выклікае здзіўленне, што польскі Галоўштаб не звяртаў увагу на магчымасць стварэння нацыянальных беларускіх і ўкраінскіх падраздзяленняў у сваім войску. Так, гэта патрабавала б змянення ўсёй нацыянальнай палітыкі, якую праводзіла Варшава на сваіх «Крэсах». Разам з тым, нягледзячы на шматлікія пралікі «санацыйных» уладаў, у верасні 1939 года польскую незалежнасць абаранялі тысячы беларусаў і ўкраінцаў. І рабілі гэта мужна і з гонарам.

Фота з архіву аўтара

# «Менталітэт чыноўнікаў ад культуры яшчэ не гатовы да ўспрымання сучаснага танца»

Кацярына ЯРОМІНА

**Раду Паклітару, заслужаны дзеяч мастацтваў Украіны і народны артыст Малдовы, кіраўнік і галоўны балетмайстар Акадэмічнага тэатра «Кіеў мадэрн-балет», у Беларусі амаль што свой. У 1991–2001 гадах ён працаваў у трупе Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета ў Мінску, скончыў Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі па спецыяльнасці «балетмайстар» (курс народнага артыста СССР Валянціна Елізар'ева) і менавіта на беларускай сцэне дэбютаваў як харэограф.**



**Раду Паклітару.** Фота прадастаўлена тэатрам «Кіеў мадэрн-балет»

Пасля ад'езду з краіны Паклітару захаваў творчыя сувязі з Беларуссю. Яго пастаноўкі ў 2000-х гадах ішлі ў Вялікім і Музычным тэатрах у Мінску, а спектаклі «Кіеў мадэрн-балета» нярэдка прывозілі на Міжнародны фестываль сучаснай харэаграфіі ў Віцебску (IFMC).

Нядаўна «Кіеў мадэрн-балет» і Раду Паклітару зноў завіталі ў Беларусь. На гэты раз у рамках праекта «Балетнае лета ў Вялікім».

***— Раду Вітальевіч, пэўная частка вашага жыцця звязаная з Беларуссю. Ці можаце сказаць, што праца ў Вялікім тэатры ў Мінску, з Валянцінам Елізар'евым нейкім чынам паўплывала на вас?***

— Канечне, паўплывала. Як могуць дзесяць гадоў жыцця не паўплываць? Я зараз не буду спрабаваць ацаніць ступень, бо гэта нагадвае сеанс у псіхааналітыка. Аднак у Вялікі тэатр Беларусі я прыехаў працаваць абсалютна без жыццёвага і творчага досведу, і ўвесь мой вопыт як артыста балета, як выканаўцы, спачатку выключна кардэбалету, а потым асобных сольных партый, заснаваны на тым, што я атрымаў у гэтых сцэнах.

Калі ж мы размаўляем пра прафесію харэографа, то яе я атрымаў з рук Валянціна Мікалаевіча Елізар'ева, калі пяць гадоў вучыўся ў яго ў Акадэміі музыкі. Я быў адным з выпускнікоў яго першага курса, і гэта вельмі прыемна. Тое, што я зараз з'яўляюся харэографам, шмат у чым заслуга Валянціна Мікалаевіча. Больш за тое, магчыма, ён не ведае, але я выкарыстоўваю яго метады падчас выкладання. Зараз я сам вучу маладых харэографаў, і нават даю ім заданні, якія некалі даваў нам Елізар'еў. Першыя крокі вельмі важныя, і я карыстаюся напрацоўкамі Валянціна Мікалаевіча. Так што ў яго ўжо ёсць харэаграфічныя ўнукі.

***— Вы не першы раз прывозіце спектаклі вашага тэатра ў Беларусь. Частка пастановак, якія паказваліся ў Мінску, напрыклад, «Шчаўкунок» і «Жызэль», — гэта ваш сучасны погляд на балетную класіку. Чым выкліканы інтарэс да класічных балетаў?***

— У тэатры «Кіеў мадэрн-балет» ёсць дзве часткі рэпертуару. Першая — узгаданыя вамі «рымейкі» класічных балетаў: «Жызэль», «Шчаўкунок», «Спячая прыгажуня», якую мы прывезлі ў гэтым годзе на Балетнае лета. Але ёсць у нас і цалкам аўтарскія работы. Напрыклад, «Жанчыны ў рэ-міноры», іх мы таксама паказвалі ў Беларусі, не ідуць нідзе ў свеце, толькі ў Кіеве і Нацыянальным тэатры ў Бялградзе, на сцэну якога я перанёс свой спектакль. Гэта другі вектар рэпертуару «Кіеў мадэрн-балета», які складаюць спектаклі, што не маюць аналагаў у сусветным балетным тэатры. Суадносяцца ж два вектары прыблізна 50 на 50.

А чым прываблівае класіка і чым яна добрая, дык гэта тым, што класічныя назвы лепш прадаюцца. Давайце будзем шчырымі: нашмат лягчэй прадаць «Шчаўкунка» Чайкоўскага, чым аўтарскі балет на геніяльную музыку не вядомага шырокай публіцы сучаснага кампазітара. Людзі хочуць «Спячую прыгажуню», «Лебядзінае возера», «Кармэн», а мы можам ім гэта прапанаваць. Усё супадае.

***— Аднак вашы пастаноўкі класічных балетаў падаюцца падчас жорсткімі, некалькі іранічнымі ў адносінах да самой класікі. У той жа «Жызэлі» віліся ператтвараюцца ў насельніц бардэля.***

— Ніякай іроніі тут няма. Мне здаецца, што як аўтар я маю права па-свойму глядзець на тую ці іншую гісторыю і распавядаць яе так, як лічу патрэбным. Галоўнае — не змяняць сутнасць. Сутнасць той жа «Жызэлі» ў тым, што каханне было падманутае, што мы не маем права яму здраджваць. Гэта галоўная ідэя. А тое, дзе адбываецца здрада, на могілках ці ў бардэлі, не важна.

***— Тое, што вы робіце, усё ж дастаткова незвыкла для публікі Опернага тэатра. Паводле вашых адчуванняў, беларускія гледачы добра ўспрымаюць спектаклі «Кіеў мадэрн-балета»?***

— Я спавядаю культ публікі і лічу, што мы не маем права ацэньваць яе ці абмяркоўваць, як зала ўспрымае спектакль. Са свайго боку дакладна ведаю: артысты тэатра «Кіеў мадэрн-балет», гукарэжысёры, мастак па святлу, пастановачная частка, я, педагог-рэпетытар — усе людзі, з працы якіх складаецца спектакль, будуць выконваць сваю работу на 150 адсоткаў для таго, каб гэта быў супер-паказ. Мы ж прымем любое рашэнне публікі. Аднак, мяркуючы па тым, што мы прыязджаем у Беларусь не ў першы раз і на ўваходзе тэатра пакуль няма нашых партрэтаў з надпісам «Не пускаць», усё добра.

***— Вашы спектаклі паказвалі ў Беларусі ў рамках Міжнароднага фестывалю сучаснай харэаграфіі ў Віцебску, а вы самі з'яўляліся членам і старшынёй журы IFMC. Як можаце ацаніць узровень сучаснай беларускай харэаграфіі?***

— Магу сказаць, што я вельмі шчаслівы, бо памятаю беларускую харэаграфію 1990-х гадоў. Зараз у ёй, у першую чаргу дзякуючы Віцебскаму фестывалю, адбыліся адчувальныя змены. Я здымаю капялюш перад Марынай Рамаоўскай (дырэктарка Міжнароднага фестывалю сучаснай харэаграфіі ў Віцебску. — НЧ.), якая 31 год на чыстым энтузіязме цягне на сабе гэты фестываль, — беспрэцэдэнтная праца. Гэта жанчына за 31 год сфарміравала незвычайную цудоўную з'яву сучаснай беларускай харэаграфіі, якой у прынцыпе ў Беларусі быць не павінна.

***— Чаму не?***

— Таму што няма перадумоў для гэтага. На дзяржаўным узроўні гэта не падтрымліваецца, гістарычных перадумоў няма, бо гэта не Парыж з гастролямі Айседоры Дункан. Скажам шчыра: мы знаходзімся ў гэтым сэнсе на ўзбочыне Еўропы. І пры гэтым беларуская харэаграфія неверагодна вырасла за апошнія дзесяцігоддзі. У 2018 годзе я быў старшынёй журы ў Віцебску і проста радаваўся, калі бачыў, якія цудоўныя работы паказваюць. Не ўсе, зразумела, але ў мастацтве і не бывае так, каб усё-ўсё было добра. Але вельмі шмат работ высокага, еўрапейскага ўзроўню, і зроблена гэта дзякуючы таму, што ёсць фестываль у Віцебску, дзе могуць раскрывацца таленты.

***— Калі ўзровень вырас і ёсць работы, якія ўжо атрымалі прызнанне нават за мяжой, напрыклад «Паветра» Вольгі Лабоўкінай (пастаноўка перамагла на конкурсе маладых харэографаў у межах Міжнароднага фестывалю CONTEXT. Diana Vishneva 2017), чаму сучасную харэаграфію да гэтага часу цяжка пабачыць на беларускіх акадэмічных сцэнах?***

— Гэта немагчыма, таму што менталітэт чыноўнікаў ад культуры яшчэ не гатовы да ўспрымання сучаснага танца як паўнавартаснага мастацтва, якое мае такое ж права на існаванне, што і акадэмічнае. І гэта постсавецкая гісторыя і мысленне. Якімі б цудоўнымі ні былі чыноўнікі, ім усё адно складана ўявіць, што сучасны танец, якім усё прапітана ў еўрапейскіх і лепшых амерыканскіх тэатрах, Марыінскім і Вялікім тэатрах Расіі, можа займаць аднолькавае становішча з класічнай харэаграфіяй.

Канечне, хочацца ўбачыць работы харэографаў кшталту Вольгі Лабоўкінай на акадэмічных сцэнах. Таму давайце проста чакаць і спадзявацца, што побач з акадэмічным, класічным танцам на сцэне Опернага тэатра Беларусі і Музычнага тэатра распусціцца пышнай кветкай сучасная харэаграфія, зусім не перашкаджаючы «Лебядзіным азёрам», «Шчаўкункам» і «Спячым прыгажуням». Бо яны толькі дапамагаюць адно аднаму. Артысты, якія папрацавалі з сучаснай харэаграфіяй, потым лепш танцуюць класіку.

***— А беларускія артысты пры існай сістэме падрыхтоўкі, па вашым меркаванні, гатовыя да работы з сучаснай харэаграфіяй?***

— Канечне, яны не багі сучаснай харэаграфіі, і з імі трэба працаваць. Гэта зразумела. Зараз я знаходжуся ў працэсе абмеркавання пераносу аднаго з маіх спектакляў на трупу Вялікага тэатра Беларусі і загадзя рыхтуюся да таго, што магу сутыкнуцца з праблемамі, звязанымі з цяжкасцю ўспрымання целамі і розумамі маладых артыстаў балета маёй харэаграфіі. Аднак праца і рукі — моцныя зарукі.

***— Ці можаце падзяліцца бліжэйшымі творчымі планамі?***

— Я ніколі не дзяліся пастановачнымі планамі, бо я маргінальны рэаліст. У нас у «Кіеў мадэрн-балеце» толькі што выйшаў спектакль «Вій» (прэм'ера балета адбылася 20 чэрвеня. — НЧ.), і я пакуль яшчэ знаходжуся ў стане шоку пасля выпуску гэтага вельмі складанага тэхнічна спектакля. З 4 па 9 ліпеня ў нашага тэатра запланаваны вялізарны праект «Лета ў стылі мадэрн»: на сцэне Адэскага опернага тэатра кожны вечар мы будзем паказваць новую праграму з аднаактных і шматактных балетаў. Пасля гэтага мы пойдзем у адпачынак, а з верасня пачнём сваю звычайную працу ў Кіеве і шматлікія турнэ па Украіне з «Віем». Яго, дарэчы, мы прывязем восенню ў Мінск і Віцебск у межах IFMC.




**Фота Сяргея Яфанава з балету «Жызэль».** Фота прадастаўлена тэатрам «Кіеў мадэрн-балет»




# БагатаДата

**Сусветны дзень народанасельніцтва і Міжнародны дзень Дняпра. Іншыя цікавыя даты і падзеі — у нашым аглядзе.**

### 6 ліпеня

**Міжнародны дзень Дняпра.** Адзначаецца ў першую суботу ліпеня. Гэта трэцяя па даўжыні і плошчы басейна пасля Волгі і Дуная рака.

**1909.** У вёсцы Бараўцы Баранавіцкага раёна на Брэстчыне нарадзіўся ваенны лётчык Сяргей Грыцавец. Ён першы, хто стаў двойчы Героем Савецкага Саюза. Збіў больш за 40 самалётаў падчас Грамадзянскай вайны ў Іспаніі і ў вайне супраць японцаў. Пад Халхін-Голам здзейсніў подзвіг, выратаваў камандзіра. Пасля таго, як збілі самалёт камандзіра, той спусціўся на парашуце наўпрост у лагер праціўніка. Грыцавец пасадзіў туды свой самалёт, падхапіў камандзіра і ўзняўся ў паветра. Сяргей Грыцавец павінен быў браць удзел у паходзе савецкіх войскаў на Польшчу 17 верасня 1939 года, але за дзень да гэтага загінуў у авіякатастрофе ў Аршанскім раёне.

### 7 ліпеня

**Купалле.** Старажытнае народнае земляробчае свята, звязанае з летнім сонцастаяннем, з росквітам прыроды і летняй цеплыні.

**1864.** Адкрылася Маладзечанская настаўніцкая семінарыя — адна з першых у Расійскай імперыі. Тут, напрыклад, навучаліся Чарот, Рак-Міхайлоўскі, Забэйда-Суміцкі.

### 8 ліпеня

**1949.** У вёсцы Жданава Вінніцкай вобласці Украіны нарадзіўся вядомы сучасны каталіцкі святар Уладзіслаў Завальнюк, пробашч касцёла Святых Сымона і Алены (Чырвонага касцёла) у Мінску. За савецкім часам арыштоўваўся за «рэлігійную прапаганду», прымусова змяшчаўся ў псіхіятрычную лякарню. У Беларусі служыць з 1984 года — спачатку ў Глыбокім і Мосары.

**1974.** У Чалябінску нарадзіўся хакейны брамнік Андрэй Мезін, былы гулец зборнай Беларусі. Чатыры разы прызнаваўся найлепшым хакеістам нашай краіны. Менавіта Мезін, які меў мянушку «Скала», быў у браме, калі Беларусь сенсацыйна выйграла ў шведаў у чвэрцьфінале Алімпіяды–2002.

### 9 ліпеня

**1954.** У Мінску нарадзілася скульптар Святлана Гарбунова. Сярод яе твораў — помнік Сымону Буднаму ў Нясвіжы.

### 10 ліпеня

**1994.** У другім туры на першых выбарах прэзідэнта Беларусі перамог дэпутат Вярхоўнага Савета Аляксандр Лукашэнка. Ён набраў 80,1% галасоў (з улікам яўкі гэта было 56% галасоў усіх выбаршчыкаў). Яго супернік прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч атрымаў 14,1%.

### 11 ліпеня

**Сусветны дзень народанасельніцтва.**

**1934.** У Харкаве нарадзіўся спявак, народны артыст Беларусі, мастацкі кіраўнік дзяржаб'яднання «Белканцэрт» Віктар Вуячыч. У Беларусі спявак апынуўся выпадкова. Пры канцы службы ў арміі вырашыў, што паедзе туды, куды патрапіць пальцам на мапе. Выпаў Мінск.

### 12 ліпеня

**1914.** У вёсцы Крывель Шклоўскага раёна на Магілёўшчыне нарадзіўся папулярны савецкі кінаакцёр Пётр Алейнікаў («Сямёра смелых», «Трактарысты», «Вялікае жыццё»). Пры канцы 1990-х гадоў у Крывелі адкрыўся Дом-музей акцёра.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

# Дзень святога Пятра і легенда пра матрыярхат

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**У каталікоў 29 чэрвеня — Дзень святых апосталаў Пятра і Паўла. Праваслаўныя адзначаюць яго 12 ліпеня. У некаторых мясцовых традыцыях Пятроў дзень успрымаўся як каляндарны рубеж, але не толькі як абстрактны пік лета, а і мяжа пэўных відаў гаспадарчых работ. Да свята трэба было паспець навязаць венікаў, надраць ліпы на лыка для лапцяў, апрацаваць капусту матыкай, перасадзіць расліны і г.д.**



**Патрок у вёсцы Шыпілавічы Любанскага раёна.** Аўтар Альфрэд Мікус

### Пятроўскія песні

Вельмі часты песенны сюжэт — дзяўчына не выспалася ў кароткую пятроўскую ноч, задрамала і не чула, як да яе прыехаў хлопец. Зрэдку замест дзяўчыны, паненкі, фігуруе ўдава. Часта пяюць пра падбор параў, прыроўніваючы хлопца і дзяўчыну да качкі з селязнем. Казалі «дзеўка хітра да Пятра», маючы на ўвазе, што імкнецца спадабацца хлопцам, бо ў гэты дзень гулялі вяселлі, а наступны перыяд, калі засылалі сватоў, наступаў толькі ўвосень, пасля збору ўраджаю.

Шлюбныя матывы пятроўскіх песень у нейкай ступені могуць быць абумоўлены Пятроўскім постам (Пятровіцай), што цягнуўся ад Тройцы да Пятрова дня і накладаў на паводзіны моладзі некаторыя абмежаванні. Напрыклад, у песні з Любанскага раёна:

*Цяжка да важка Пятра ждаць,*
*Ды на дзевак паглядаць*
*Цягнецца хлопцам Пятровіца, гардовіца.*
*Сядзелі хлопцы ў балотцы,*
*на калодцы,*
*Ды злавілі жабку, аблупілі*
*Ды пашылі шапку, мералі.*
*Адзін кажа: «Шапка!»*
*Другі кажа: «Жабка!»*

Гардовіца — горкая трава. У песні Пятроў пост параўноўваецца з гэтымі зёлкамі, каб падкрэсліць, наколькі хлопцам цяжка вытрымліваць забарону на супольныя гулянні з дзяўчатамі. У тэксце фігуруе шапка, у традыцыйнай карціне свету — сімвалічны займеннік самога мужчыны, як і любы прадмет мужчынскага адзення.

Падчас святкавання Пятра ў Любанскім раёне дзяўчаты і жанчыны зрывалі з мужчын і хлопцаў шапкі і кідалі іх у вогнішча. Такое сімвалічнае падкрэсліванне жаночай улады. У той жа час, дзяўчына магла выбраць любога хлопца і надзець яму на галаву свой вянок. Пара пераскоквала праз вогнішча, узяўшыся за рукі, за пацалунак хлопец вяртаў дзяўчыне вянок і павінны былі гуляць з ёй усю ноч. Усё ж традыцыйна актыўная роля за мужчынам, ён запрашае на танец, абірае дзяўчыну падчас гульняў, заляцаецца, засылае сватоў... Таму апісаны звычай — зусім не звычайны.

### Жаночае свята

Пра сувязь дня святога Пятра з жаночым валадараннем сведчыць таксама легенда, запісаная ў вёсцы Пласток Любанскага раёна. Хрыстос і Пётр хадзілі па зямлі, вырашаючы, каму даць права: мужчыну ці жанчыне. Пётра казаў — жанчыне, а Хрыстос — мужчыну. І вось яны спыніліся на начлег у аднаго дзеда, ды была ў яго дужа злая жонка: «Палеглі, ляжаць... Пятро з краю, а Бог ад сцяны. Прыбегла. Крычала-крычала, і давай лупцаваць святога Пятра. І пабегла зноў. Бог гаворыць:

— Давай, ты ад сцяны ляж, а я з краю.

Ну, лёг Пятро ад сцяны. Тая прыбегла і зноў давай крычаць.

— Ішчэ ж — кажа, — ат сцяны не біла! — Да і зноў Пятру папала. Ну, яны падзякавалі дзеду тому і пайшлі. А Бог кажа:

— Я казаў табе жанчыне права не даваць, а мужчыну. А ты казаў жанчыне трэба права даць. От табе з папала» (распавяла Надзея Трафімаўна Сушчэня).

Па словах даследчыцы Алены Боганевай, якая запісала легенду, гэта — варыянт сюжэту, ранней шырока распаўсюджанага ў Беларусі, Расіі і Украіне. У больш старажытных варыянтах распавядаецца, што спачатку ўвогуле на зямлі кіравалі жанчыны, але калі Бог з Пятром хадзілі па зямлі, іх сустракалі неласкава, і таму Бог вырашыў надзяліць уладай мужчын. Фактычна, гэта легенда аб пахаджанні патрыярхальнага сацыяльнага ўкладу.

Праявы жаночага свавольства на Пятра сустракаюцца таксама ў Маладзечанскім раёне. У вёсцы Шалыгі мужчынаў, якія былі ў гэты дзень імяніннікамі (насілі імя Пётр ці Павел), жанчыны праганялі ў поле. Маглі пасадзіць на крэсла і злёгку падкідаць — «падымаць на ўра», пакуль імяніннік не адкупіцца пачастункам. У вёсцы Загорскае з імяніннікаў «спаганялі барыш». Да таго ж, яго можна было патрабаваць за любога сваяка мужчынскага полу з адпаведным імем.

### Шлюбныя матывы

Прымаўка «Жджы Пятра — сыр з'ясі!» кажа, бадай, не толькі пра тое, што падчас Пятроўскага посту забаранялася есці малочнае. Сыр у міфапаэтычнай карціне свету беларусаў выступае як сімвал шлюбу, цнатлівасці, і ў той жа час урадлівасці. Сыр як абрадавая страва сустракаецца ў беларусаў на Юр'я, Тройцу, Купалле, Пятра, Зажынкі, абрады сямейнага цыклу. Пасля шлюбнай ночы бацькі маладой, што заставалася цнатлівай да вяселля, клалі маладому за пазуху сыр, загорнуты ў анучку; сыр часта ўваходзіць у лік пачастункаў, што неслі парадзіце; для жанчыны сніць сыр — да нараджэння сына.

Асабліва часта ў беларускім фальклоры сустракаюцца матывы сувязі сыра з нараджэннем хлопца, з маладым мужчынам. У некаторых выпадках сыр як рытуальная страва забяспечвае сувязь паміж жывымі і нябожчыкамі. Тое, што сыр выступае і як сімвал пладнасці, і як сродак сувязі з іншасветам, у традыцыйнай логіцы цалкам апраўдана, бо менавіта памерлыя продкі забяспечваюць дабрабыт жывых.

На фоне сімволікі, што сыр мае ў розных абрадах, прадпісанні абавязкова ўжываць яго на Пятра, у вясельную пару, ужо не здаюцца дзіўнымі. Такія прадпісанні зафіксаваныя на Віцебшчыне ўжо ў наш час (Шаркоўшчынскі раён). У канцы XIX стагоддзя Мікалай Нікіфароўскі нават адзначаў, што неўжыванне сыра на Пятра пагражае смерцю: «Хто на Пятра не разгавеецца сырам і маслам, той не дачакаецца таго ж разгавення на лета». А як жа, жыццё павінна працягвацца.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1036

Падпісана да друку 05.07.2019. 8.00.
Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.